

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ



1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.



№ 2(85) Люты 2001 February Год. выд. 9.


# Альтэрнатыва лукашызму

**Сярод прэтэндэнтаў на прэзыдэнта беларускамоўных няма. Пазьняк фармальна ня мае права вылучацца, бо ня жыў у Беларусі, і пакуль ніхто не знайшоў, як ён можа абысьці гэтую рагатку. Іншыя белмоўныя палітыкі й грамадзкія дзеячы пакуль ня маюць прэзыдэнцкіх амбіцыяў. Белмоўныя выбарцы апынуліся перад цяжкім выбарам – каго ж у такой сытуацыі падтрымаць. У 1994 г. мелі на выбар Пазьняка й Шушкевіча.**

А цяпер усё па-іншаму. На тамтыя выбары самыя папулярныя кандыдаты ішлі пад лёзунгам скасаваньня нацыянальнае незалежнасьці. Цяпер ніводзін кандыдат ня робіць гэта цьвіком праграмы. І гэта, і адсутнасьць белмоўнага кандыдата – як люстэрка беларускае цяпершчыны. Краіна стае ўсё больш сатэлітна-незалежнаю і ўсё менш беларускаю.

Канкураваць будуць ня гэтак эканамічныя праграмы, колькі проста абліччы і характары. Людзям прапануецца рабіць выбар сэрцам. Усе статыстычныя выкладкі ў гэткай сытуацыі маюць мала значэньня проці іміджу кандыдата і ягонага мінулага.

Сёньня рэшкаю Лукашэнкі-арла, па вялкім рахунку, застаецца Пазьняк. Ягоная самаадданая беларускасьць, ягонае патрабаваньне маральнае палітыкі. Але Пазьняк ня змог разбурыць навешаны на яго нэгатыўны імідж, ухіліўся ад рэальнае палітыкі і месца сымбалічнае альтэр- натывы фактычна стаіць незанятае. З выбараў магла б выйсьці новая сымбалічная фігура альтэрнатывы лукашызму. Ня столькі Лукашэнку як палітыку, лукашызму – як палітыцы, як культуры мысьленьня. Бо нават калі Лукашэнка прайграе, лукашызм як спадчына і палітычная стратэгія нікуды не падзенецца і вельмі хутка возьме рэванш, калі яму ня будзе проціпастаўленая стваральная праграма. Інакш посьпех на выбарах будзе выпадковым, дасягнутым дзякуючы гапе ці разьліку Масквы, і ён вельмі хутка перавернецца ў паразу, прынясе яшчэ большае расчараваньне і дэбеларусізацыю.

Альтэрнатыву лукашызму мог бы ўвасобіць Дабравольскі, але ён не наважыўся вылучыцца. Сярод тых, хто ідзе на выбары, такой альтэрнатывай можа стаць Домаш. Усе астатнія ўспрымаюцца як "кандыдаты супраць", а не "кандыдаты за". Aut Домаш, aut nihil – такое ўражаньне ствараецца сёньня. Хоць і Домаш пакуль не заваяваў народнай падтрымкі. Во ж і вылучылі яго ўпершыню ня ў родных Тумашах, а ў раскошнай канфэрэнц-залі гатэлю "Беларусь".

Прадстаўнікі 30 грамадзкіх арганізацыяў, блізкіх да партыяў з КРДС, сабраліся там, каб урачыста заклікаць дэмакратычныя сілы абвесьціць адзіным кандыдатам Домаша. Тым ня менш, КРДС на чарговым паседжаньні зноў не дамовілася пра адзінага кандыдата. Уся надзея на Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, што пройдзе на пачатку сакавіка. Аднак партыі КРДС відавочна схіліліся на карысьць Домаша. Гэта нэрвуе Чыгіра й Ганчарыка.

Уладзімер Ганчарык заявіў у інтэрвію "БДГ", што не прэтэндуе на ролю адзінага кандыдата ад патрыятычна-дэмакратычнага блёку на чале з КРДС. Ён хоча вылучацца не ад "палітычнай апазыцыі", а ад "людзей, што не ўваходзяць ні ў якія партыі". Ганчарык зразумеў, што шанцаў знайсьці падтрымку дэмакратаў у яго вобмаль, але хоча ўзяць удзел у кампаніі. Яму 60 гадоў, і другога такога шанцу ў яго ня будзе. Дэмакраты ж ня вераць, што чалавек, які пасьпяхова абараняў правы працоўных 15 гадоў, зможа здабыць падтрымку тых самых працоўных.

Чаго чакае Масква ад альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў, паказаў сам наш "правадыр" у інтэрвію расейскаму тэлеканалу "Культура". Ён ізноў абражаў беларускую мову як недастаткова разьвітую, беларускую культуру як нinduction ... 

Такое ўражаньне, што тое хамства было нагвалт патрэбнае Лукашэнку, каб ад нечага абяліцца, даказаць вернасьць Расеі. Якраз перад таямнічаю здачаю Барадзіна ў рукі правасудзьдзя. Лукашэнка кажа, што сам яго адправіў у ЗША. Значыць, гэта ён фактычна падставіў свайго "дзяржсакратара", а ў рахунках "Мабэтэксу" подпісы Лукашэнкі не фігуруюць?

**Барыс Тумар** – "Наша Ніва".

# Барадзін зьбіў з тропу Саюз

Дзяржаўны сакратар Саюзу Беларусі й Расеі Павал Барадзін, якога абвінавачваюць у карупцыі й адмываньні грошай, застаецца ў вязьніцы. Бруклінскі фэдэральны суд Нью-Ёрку вырашыў не выпускаць Барадзіна пад грашовы заклад. Нягледзячы на заявы адвакатаў пра беспадстаўнасьць патрабаваньняў швэйцарскай пракуратуры й важнасьць асобы Барадзіна для Расеі, а таксама заяву расейскага пасла ў ЗША, судзьдзя зрабіў выснову: для вызваленьня няма дастатковых падстаў.

Нягледзячы на тое, што Павал Барадзін ёсьць грамадзянінам Расеі, на судзе, па даручэньні беларускага Міністэрства замежных спраў, прысутнічаў генэральны консул Беларусі ў Нью-Ёрку Аляксандар Астроўскі. А напярэдадні беларускі консул разам з расейскім наведаў дзяржаўнага сакратара Саюзу ў вязьніцы. Распавядае прэсавы сакратар МЗС Павал Латушка.

**П.Л.:** - На гэтай сустрэчы абмяркоўваліся юрыдычныя пытаньні, зьвязаныя з магчымым вызваленьнем з-пад арышту Паула Барадзіна. У тым ліку, з боку Паула Барадзіна была выказаная падзяка на адрас прэзыдэнта Беларусі за тую пазыцыю, якую ён заняў у сувязі з затрыманьнем яго. Барадзін таксама адзначыў, што ня мае ніякіх прэтэнзій па ўмовах ягонага ўтрыманьня ў вязьніцы.

Мяркуючы па ўсім, да згаданай разьвязкі судовых слуханьняў у Нью-Ёрку Масква ўжо была гатовая. Напярэдадні расейскі ўрад знайшоў замену Паўлу Барадзіну на ягонай пасадзе. Выконваць абавязкі дзяржаўнага сакратара Саюзу Беларусі й Расеі пачаў Ігар Селіванаваў. Тым часам Менск быў зьбянтэжаны гэтакім рашэньнем расейскага боку. А пасьля апошняга судовага паседжаньня ў Нью-Ёрку вытрымлівае паўзу.

У Міністэрстве замежных спраў паведамляюць, што беларускі бок пакуль вывучае сытуацыю - і, магчыма, будуць зробленыя нейкія заявы. Аднак гэтая паўза можа зацягнуцца, бо расейскі бок настойвае, каб рэакцыя саюзьнікаў была зробленая на паседжаньні Савету Міністраў агульнае дзяржавы. Невядома, ці адважыцца ў гэтай сытуацыі беларускае кіраўніцтва дзейнічаць без кансультацыяў з расейцамі… А пакуль П. Барадзін сядзіць…



**Спадар Станіслаў ШАБОВІЧ —**

**знаны беларускі грамадзка-палітычны дзеяч у ЗША, сталы працаўнік на ніве Беларускага адраджэньня, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Славік! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**

# Ул. Пуцін баіцца НАТА

**Расея адкрыта й рашуча выступае супраць пашырэньня НАТА -- зноўку заявіў прэзыдэнт Уладзімір Пуцін. Ён выступіў з прамоваю на паседжаньні кіраўніцтва расейскага Міністэрства Замежных Справаў. Ідэю тэрытарыяльнай разбудовы пакту Пуцін назваў палітычнай памылкай. "Пасьля падзеяў на Балканах двухбаковыя адносіны сапсаваліся",-- заявіў прэзыдэнт Пуцін. Аднак ён зазначыў, што супрацоўніцтва паміж Масквой ды НАТА паступова паляпшаецца. У прамове Пуцін заўважыў, што Расея мае свае нацыянальныя інтарэсы ўсюды ў сьвеце. Адным з найважнейшых напрамкаў дзейнасьці расейскай дыпляматыі, паводле ягоных словаў, зьяўляецца Эўропа, хоць Расея не імкнецца далучыцца да Эўразьвязу.**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *Зь Вільні — экспарт мірнай рэвалюцыі ў Беларусь.*

***Чатыры дзясяткі беларусаў у Вільні пачалі вучыцца, як бяз гвалту змагацца з дыктатарскім рэжымам у сваёй краіне.***

Як паведамляе газэта «Летувос рытас», у літоўскую сталіцу прыслалі сваіх прадстаўнікоў амаль усе беларускія апазыцыйныя рухі і партыі. Тры беларусы прыехалі з ЗША. Сярод іх — адзін зь лідэраў апазыцыі Зянон Пазьняк.

Кожны, праслухаўшы ўвесь цыкл лекцыяў, стане ў Беларусі інструктарам, здольным навучаць мэтадаў негвалтоўнага супраціву іншых прыхільнікаў апазыцыі.

Пяцідзённы сэмінар называецца «Негвалтоўная барацьба за дэмакратыю і дэмакратычны працэс у Беларусі».

Сэмінар у Вільні для прадстаўнікоў беларускай апазыцыі арганізаваў Фонд Падтрымкі Абароны Грамадзянаў, які ўзначальваюць праваабаронца Стасіс Каўшыніс і былы дэпутат Сойму Аўдрус Буткявічус.

Вучыць беларусаў прыехаў у Літву і кіраўнік амэрыканскага Інстытуту Эйнштэйна, славуты тэарэтык негвалтоўнага супраціву Джын Шарп, які больш за дзесяць гадоў таму кансультаваў і балтыйскія незалежніцкія рухі.

Згаданы амэрыканскі інстытут ужо арганізоўваў сэмінары ў пытаньнях негвалтоўнай абароны для дэмакратаў у Бірме, у Індыі былі зладжаныя курсы для асобаў дэпартаваных з Тыбэту.

Ад 1991 году інстытут кансультаваў вайсковыя структуры Літвы, Латвіі й Эстоніі. Ладзіліся курсы ў пытаньнях выкарыстаньня негвалтоўнай абароны, былі перакладзеныя падручнікі. У 1992 годзе ў Літве выйшла кніга Дж. Шарпа "Грамадзянская абарона".

Паводле Буткявічуса, у Вільні напэўна ня будуць вучыць, як падрываць чыгуначныя масты або вырабляць выбуховыя прыстасаваньні.

«Аднак можна навучыць, як зрабіць так, каб чым найболей людзей пачалі не давяраць уладзе, або каб спэцыялісты стратэгічных галінаў (лекары, фінансісты, юрысты) арганізавана адмаўляліся ад супрацоўніцтва з дыктатарам». — сказаў А.Буткявічус.

Беларусы таксама будуць вучыцца таму, як падчас канфлікту ў грамадзтве арганізоўваць страйкі, дэманстрацыі ды іншыя акцыі паралізаваньня ўлады. Праца са сродкамі масавай інфармацыі, стварэньне мітаў і іх пашырэньне — таксама важныя складнікі такога змаганьня.

А. Буткявічус прызнаў, што беларускае грамадзтва цяпер выразна арыентаванае на Расею. Бальшыня людзей упэўненая, што лепш цяперашняе становішча і мінімальныя жыцьцёвыя гарантыі, чым рэвалюцыйныя перамены, якія невядома куды прывядуць.

Аднак у Беларусі нямала і прагрэсіўных людзей, якім перамены патрэбныя як паветра. Паводле Буткявічуса, у такой сытуацыі найбольш могуць прыдацца акцыі, падтрыманыя негвалтоўнымі мэтадамі.

Сакратар Літоўскай Асацыяцыі Правоў Чалавека С. Каўшыніс не хавае, што з-за супрацоўніцтва зь беларускай апазыцыяй ён меў сур'ёзныя непрыемнасьці і выклікаў крытыку калегаў за сваю палітычную дзейнасьць.

Таму ён заснаваў Фонд Падтрымкі Абароны Грамадзянаў, адна з афіцыйна зарэгістраваных галінаў дзейнасьці якога — дапамога дэмакратычнаму руху Беларусі.

С.Каўшыніс падкрэсьліў, што зь беларускай апазыцыяй ён супрацоўнічае найперш адчуваючы адказнасьць за Літву.

«Калі нас цікавяць суседзі, мы мусім паруупіцца, каб у Беларусі чым хутчэй зьнік той рэжым, які цяпер захапіў уладу,» — сказаў Стасіс Каўшыніс.

Радыё "Свабода", Прага

## Свабода, самастойнасць, незалежнасць самі не прыйдуць. За іх трэба змагацца!

**Выбары ў Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь яскрава паказалі, што большасць людзей, што падтрымалі Вызвольны Рух, байкатавалі галасаванне за кандыдатаў у так званую «палатку». А тым самым выказалі недавер існуючаму антынароднаму рэжыму і жаданне кардынальных зьменаў у дзяржаве. Зразумеў гэта і выконваючы абавязкі прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка. Страх апанаваў ім. Бо сёння ён судзіць людзей за праўду, а заўтра яго будуць судзіць за хлусню, за той развал, які ён стварыў за сем гадоў «мудрага кіравання».**

Масква, баючыся страціць сваю ўладу ў Беларусі, імкнецца завяршыць кадравае афармленне расейскай акупацыі і стварыць палітычныя ўмовы для здачы беларускай дзяржавы пад Расею. І першы «паспяховы» захад у гэтым накірунку зроблены. З 27 лістапада на Беларусі кіруе цалкам расейскі акупацыйны ўрад, які складаецца з расіянаў, іх генералаў і функцыянераў КГБ-ФСБ. Заканчваецца поўны захоп расіянамі беларускага войска, міліцыі і КГБ, завяршаецца разгром беларускага нацыянальнага школьніцтва, асветы, адукацыі і рэлігіі.

Наступным захадам па маскоўскаму сцэнару будуць прэзідэнцкія выбары. Але, пагадзіцеся, што адпаведна дзеючаму заканадаўству ніякіх рэальных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў такіх умовах не будзе. Можа адбыцца толькі фальшывая выбарчая прафанацыя дзеля абгрунтавання і замацавання акупацыйнай палітыкі рукамі і нагамі саміх беларусаў. Улада ў Беларусі Масквой ужо захоплена. Засталося яе толькі легітымізаваць. Калі ж гэта не атрымаецца, Расея паспрабуе арганізаваць пераварот, хуткі захоп нацыянальнай маёмасці ды ліквідацыю Беларускай дзяржавы,ператварэнне яе ў «северо-западный край» з сучасным Мураўёвым-вешальнікам на чале.

Дзеля вынішчэння рэшткаў нацыянальнай сьвядомасці беларусаў супраць нас з боку расіянаў вядзецца таталітарная інфармацыйная вайна, вынікі якой носяць вельмі разбуральны характар.

Прэзідэнт беларускага народа, які будзе прапанаваны Беларускім Вызвольным Рухам, ліквідуе гэтую антыбеларускую палітыку І антынародную дзейнасць, забяспечыць волю, працу і будучыню беларускім людзям і ўсёй беларускай нацыі на сваёй, шчыра палітай потам і крывёю, зямлі. Мы будзем гаспадарамі ў сваім доме.

Разумейце і памятайце, што ў нашых руках -- агонь Беларускай Праўды, Свабоды і Справядлівасці. Гістарычна перамагае той, у каго лепшая і вышэйшая ідэя. І не заўсёды параза палітычная ёсць параза гістарычная.

Наша сіла -- у праўдзе, вытокі якой ляжаць у нашым гіста-рычным мінулым. За гэта, пакуль яшчэ не позна, трэба змагацца. Змагацца ўсімі дазволенымі сродкамі. Разам мы пераможам!

Вячаслаў Шчыткавец, ("Пагоня")

## ПАВЕЛ КАЗАНЭЦКІ - *PERSONA NON GRATA* У РАСЕІ

Старшыня Фундацыі IDEE Павал Казанэцкі ня быў упушчаны ў Маскву. Гэтая Фундацыя аказвала істотную дапамогу няўрадавым арганізацыям ды рэгіянальным сродкам масавай інфармацыі ў Беларусі. Тамашу Саевічу ўдалося зьвязацца з Паўлам Казанэцкім пасьля яго вяртаньня ў Варшаву.

***Як Вы думаеце, чаму Вы атрымалі статус пэрсоны нон грата ў Расеі?***

Дагэтуль нашая арганізацыя практычна ня дзейнічала ў Расеі, хаця маем кантакты з расейскімі праваабарончымі арганізацыямі. Мне злаецца, што расейскія службы атрымалі інфармацыю пра мяне й маю дзейнасьць ад беларускіх уладаў, таму што толькі ў Беларусі нашая дзейнасьць была моцна разгалінаваная.

***Чаму Расея баіцца Вашай асобы?***

Цяжка адказаць на гэтае пытаньне. Магу адказаць на пытаньне, чаму Беларусь можа баяцца маёй асобы. Нашая арганізацыя з 1992 году даволі актыўна працуе ў Беларусі. Цягам апошніх гадоў мы падтрымліваем незалежную прэсу й дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў у краіне. Паколькі сёньнешні рэжым у Беларусі ня вельмі любіць незалежную дзейнасьць, а тым больш людзей ці асяродзьдзі, якія ясна выказваюць свае погляды, думаю, што з гэтай прычыны таксама нашая дзейнасьць ня надта добра ўспрымаецца беларускімі ўладамі.

***Ці рашэньне расейскага боку азначае таксама, што Вам забаронены ўезд таксама на тэрыторыю Беларусі?***

Вось гэтага я ня ведаю. Афіцыйна такое дагэтуль мне не было заяўленае. Яшчэ ў сьнежні мінулага году я меў нагоду пабываць у Беларусі, хаця ўжо тады нам было дэманстрацыйна паказана, што ня надта прыемна нас успрымаюць у гэтай краіне. Па-першае, цягам двух дзён у Віцебску за намі хадзілі прадстаўнікі спэц-службаў, назіралі за ўсімі нашымі сустрэчамі. У Верхнім Дзьвінску дайшло да таго, што адмыслова пастаўлены быў спэцыяльны міліцэйскі пост, толькі дзеля таго, каб спыніць нашую машыну. Іншыя машыны свабодна прапускалі, толькі нас сьпісвалі, трымаючы ў машыне каля 40 хвілінаў. Пасьля 2 гадзін, калі мы вярталіся гэтай самай дарогай, не было нават шлягбаума. Гэта сьведчыць менавіта пра зацікаўленьне міліцыянтаў толькі намі й нашай дзейнасьцю.

***Ці Вам у аэрапорце ў Маскве абгрунтавалі рашэньне, чаму не ўпускаюць Вас на тэрыторыю Расеі?***

Не, наколькі мне вядома, межныя службы ня маюць такіх інфармацыяў. У кампутары ў аэрапорце былі ўсе мае дадзеныя - дата нараджэньня і гэтак далей, а за абгрунтаваньнем мне было сказана падацца ў расейскую амбасаду ў Варшаве. Толькі ў амбасадзе мне ўдасца атрымаць афіцыйныя паясьненьні ў гэтай справе.

***Ці Вы намерваецеся зрабіць гэта?***

Так, абавязкова. Я хачу напісаць спэцыяльны ліст у расейскую амбасаду.

***Ці гэтая забарона ўезду на тэрыторыю Расеі нашмат ускладніць Вашую працу?***

Мне было-б сапраўды прыкра, калі-б я меў зачыненыя дзьверы ў Рэспубліку Беларусь. У такім выпадку, на жаль, ня будзе нагоды часта сустракаць маіх сяброў. З другога боку, арганізацыя гэта не адна асоба. У нас працуе шмат людзей, якія арганізуюць грантадаўчыя й адукацыйныя праграмы ды сэмінары. Таму я ня думаю, што гэтая сытуацыя ўскладніць працу нашай арганізацыі. Можна меркаваць аднак, паколькі гэта год прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, што праца ўсіх, як замежных, так і грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі, будзе сёлета вельмі складанай.

***Гутарыў Тамаш Саевіч** (Радыё Варшава)*

*********************

***Надрукаваны зварот да патэнцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта, палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў і прафсаюзаў з прапановай стварыць шырокую грамадзкую кааліцыю — "У XXI-е стагодзьдзе з новым прэзыдэнтам".***

Сярод ініцыятараў звароту — дэпутаты Вярхоўнага савету 13-га скліканьня, кіраўнікі дэмакратычных грамадзкіх арганізацыяў і проста аўтарытэтныя і знаныя ў краіне асобы: Станіслаў Багданкевіч, Павал Казлоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Міхаіл Чыгір, Васіль Шлындзікаў ды іншыя, усяго 25 прозьвішчаў...

# У яе вершах – ані слова боязі

**Для майго пакалення, якое пачало набіраць жыццёвы тэмп разам з беларускай незалежнасцю, імя Ларысы Геніюш тады, у пачатку 90-х, гучала крыху незразумела. У школе толькі-толькі пачалі вывучаць яе творчасць, а з усіх бакоў сыпалася трыадзінае: Жанчына-Паэтка, Жанчына-Змагарка, Жанчына-Беларуска. Мы яе не ведалі. Памятаю, як было ніякавата, бо гэтыя магутныя словы пасля аўтаматычных паўтарэнняў ператвараліся у пусты гук. А адшуканыя ў бібіліятэках успаміны тых, хто яе ведаў, не ўражвалі, бо былі нейкія рацыянальныя, занадта разумныя і прычасаныя.**

**Ідучы ў Саюз пісьменнікаў да Дануты Бічэль, я шчыра пабойваўся, што і яна падрыхтуецца, будзе казаць пра Геніюш з пазіцыі «пра вялікіх людзей - высокімі словамі». Аднак, Данута Янаўна перапрасіла адразу - «Будзе экспромт»:**

- Незвычайным у яе было тое, што яна ідэалізавала беларускі народ. Так, як і ўсе адраджэнцы нашыя, захаплівалася ім. Стварыла вобраз несапраўднага, ненатуральнага народа. Але ўсё ж сама яна была не такая, як ён. Яна была іншая. Яна не жыла адным днём. Хаця ўсё гэта хавала пад нейкай маскай какецтва, такой жаноцкасці, адным словам, нейкай лёгкасці. А на самой справе яна ішла сваёй нейкай простай дарогай. У яе была гэтая дарога. Яна бачыла, вельмі яскрава, наперадзе незалежную Беларусь. На яе яна працавала. Яна сябе адчувала, па-мойму, хоць яе ніколі і не выбіралі, - прэзідэнткай Беларускай Народнай Рэспублікі. Яе дробныя ўчынкі, яна бегала па кухні, рабіла там нейкія печывы, яна ўсіх частавала, шмат гаварыла, так, як і ўсе жанчыны. Але стрыжань у яе быў адзін - гэта Беларусь, недзе наперадзе. Мэтанакіраванасць, па-мойму, была яе вызначальнай рысай.

***- Данута Янаўна, у радках Геніюш - ані слова боязі. Кожны сказ - як ультыматум тым, хто стаіць на яе дарозе. Няма гэтага агульнавядомага - лепей змаўчу, пакрычу пасля ў хаце, затое жыць лягчэй. Яна б'е проста ў твар.***

- Выпрабаванне лагерам - гэта была магутная загартоўка. Адступіш хоць адзін раз -- і ты пакоцішся. Так што трымайся і будзь чалавекам, перш за ўсё перад сабою. І яна гэта ведала. Там, у лагерах была сканцэнтравана шматлікая інтэлігенцыя свету, пастаўлена ў жудасныя ўмовы, нялюдскія. І каб выжыць, ім трэба было быць загартаванымі і людскімі.

І потым, яна была, можа, адзіная ў нашай літаратуры паэтка, якая ўвесь час верыла ў Бога. Ідэя - «Бог - мой ратунак», «Бог мяне абароніць» - гэта ў яе было не толькі ў жыцці, але перш за ўсё - у паэзіі. Яна і пранесла гэтую тэму так прыгожа, так светла. Таму абсалютна слушна - з ворагамі яна сустракалася толькі ў адкрытым баі.

З таго, што я ведаю, - яна ніколі не рабіла інтрыг, бабскіх, тутэйшых. Мы ўвесь час адныя другіх абгаворваем, - а ў яе гэтага ніколі не было.

***- У пачатку свайго творчага шляху Геніюш абрала сабе прэўданім «Чайка». Нешта лёгкае, часам, можа, бяздумнае. У савецкіх лагерах вязьні называлі яе Маці. Ад Чайкі да Маці - храналагічная адлегласць у некалькі гадоў. Тут ёсць нейкая знакавасць, якая нясе на сабе адбітак лёсу ўсіх беларусаў.***

- Жанчыну называюць па паводзінах. І ў лагерах яна ўвесь час думала пра Беларусь, яна шукала гэтых беларусаў, збірала іх, падтрымлівала духоўна. І я яе называла -- Маці. Не ведаю, як гэта атрымалася. Я першая сказала сама сабе: «Яна -- мая маці». Ведаеш, Людзей мала, і таму, калі ты іх сустракаеш, дык заўсёды выліваеш нейкія пачуцці...

...Яна мне лісты пісала, як дачцы. Каб яе не было, Божа мой, што з мяне было б! Хто я такая была ў гэтым свеце, дзе адныя камуністы? Маё жыццё зусім павярнулася, як я пабывала ў яе. Толькі тады я адчула ўвесь гэты фальш, які быў вакол нас.

***- Калі, дарэчы, Вы ўпершыню з ёю сустрэліся?***

- Мы пазнаёміліся ў 1961 годзе. Аляксей Карпюк завёз нас да яе ў Зэльву на абкамаўскай белай «Волзе». Быў яшчэ Быкаў. Дарога была лёгкая. Мы прыехалі і селі за стол. Канешне, яе ніхто не агітаваў прымаць грамадзянства. Тады - не. Але быў адзін раз, калі мы паехалі ізноў, селі, пагаварылі хараша, а потым і кажам: «Можа, вы ўсё ж такі прымеце савецкае грамадзянства?». Яна адразу спахмурнела, ёй так дрэнна стала, што мы, сволачы такія, прыехалі яе агітаваць. Яна сказала: «Не, я пайду хутка ў той Саюз пісьменнікаў, дзе Купала, Колас, Багдановіч, Цётка». Гэта было так смешна тады...

... Але потым мы сталі з ёю ліставацца. Мы былі шчырыя. Яна мяне вучыла: якім я павінна быць чалавекам. Вучыла, што людзей заўсёды трэба карміць, быць гасціннай - да цябе прыходзяць людзі, ты з імі гавары, гавары і кармі. Яна сама гэтак заўсёды рабіла. Бачыць аднойчы, што я не ў настроі, і нават пачысціла мне боцікі. Я тады яшчэ падумала: да чаго я дайшла, такая вялікая паэтка мяне абслугоўвае. Энергіі ў яе было шмат. Мяне яна часта здзіўляла. Як нарадзіўся мой сын, яна раптам прыехала з вялікім букетам кветак. Гэта самы яскравы момант - яна любіла дарыць людзям кветкі.

Некалькі разоў, як я ляжала ў шпіталі, яна перасылала кветкі са свайго зэльвенскага гародчыка. Прыходзіць нейкі дзядзька і кажа: «Кветкі -- ад Ларысы Антонаўны». Гэта тое, што мы страцілі. Яна была шляхцянкай...

***- Страшэнныя пакуты, якія выпалі на лёс Геніюш, давалі ёй права скардзіцца...***

- Па-мойму ў яе была беларуская традыцыя літаратуры, яшчэ ад Купалы і Коласа - бедаваць аб цяжкай долі народа. Ёсць у беларусаў такая рыса, і яна перадалася ёй. Але гэта былі скаргі нейкія лірычныя.

У жыцці яна ніколі не скардзілася. Як памёр мужык яе, Іван Пятровіч, - як яна сябе паводзіла! Яна не галасіла, на людзях не плакала. Ніхто ў Зэльве не бачыў яе заплаканых вачэй. Яна трымалася.

А яе вельмі крыўдзілі. Труцілі двух сабакаў, агарод па частачках адбіралі, усякую гадасць ёй рабіла гэтая зэльвенская шантрапа.

Калі ўжо засталася адна, Міхась Чарняўскі прывёз ёй сякерку маленькую археалагічную. Яна трымала яе пад падушкай на той выпадак, калі нехта палезе да яе.

***- Кім яна была тады для Вас, найперш? За ёю сачыў КГБ, яна не прымала савецкага грамадзянства. Для разумнага чалавека гэтага дастаткова, каб пачаць нешта думаць. Кім Вы ўспрымалі Ларысу Антонаўну ў тыя часы? Змагаркай?***

- Як паэтку, Вялікую. Яна давала гэта адчуць. Я заўсёды прыязджала да яе атрымаць натхненне. Мяне некалькі разоў выклікала КГБ: «Мы знаем, што вы к ней ездите. Но не могли бы вы с ней поговорить: так и так»? Я кажу: «Божа мой, я яе чаму-небудзь навучу?! Яна прайшла такую жыццёвую школу, і нейкая шмакадзяўка будзе яе вучыць - як што рабіць. А ездзіць я усё роўна буду».

Яна заўсёды чытала свае вершы, і кожны раз - новыя. Я памятаю, паставіць металічную печачку на пячэнні, уключыць, сядзе і дастане свой сшытачак. І пачынае табе чытаць і плечуком сваім так крыху падважваючы. Падвываючы, нават, крыху ненатуральна так. І гэта такія вершы! Заўсёды нейкі крок наперад. Так, сялянскія, але заўсёды філасофскія, жывыя, свежыя.

***- А як ставіліся да Ларысы Геніюш яе калегі-літаратары?***

- Я не памятаю, каб быў нейкі сход ці пленум Саюза пісьменнікаў, дзе б абмяркоўвалася творчасць Ларысы Геніюш. Адносіны да яе з боку пісьменнікаў былі добрыя. Усім хацелася адмыцца, ачысціцца ля яе ад сваёй подласці, бездухоўнасці. Да яе ўсе прыязджалі, і яна ўсіх прымала. Яна жыла па нейкіх невядомых законах продкаў. Як маці Тэрэза.

Я запомніла, як мы ездзілі з ёю ў 1981 годзе на з'езд Саюза пісьменнікаў. Яна ўзяла білет у агульны вагон, а мне хацелася нармальна выглядаць - і я ўзяла купэ. І ў мяне быў клопат: як угаварыць яе перайсці да мяне ў купэ, а яна - ні за што. Такая была эканомная. Гэта лагернае. І мне давялося перайсці да яе ў вагон.

У Менску яе на з'езд не пускалі, бо не было запрашэння, а толькі тэлеграма ад Ніла Гілевіча. Але ж пасля прапусцілі. На з'ездзе ўсе вакол яе хадзілі, запрашалі ў госці, былі ўзрадаваныя. Памятаю, Максім Танк ёй цэлую гару цукерак прынёс. Так неяк ён ішоў, а з боку глядзелася - вясковы кавалер на вечарыне. У іх былі вельмі добрыя адносіны.

***- Данута Янаўна, калі б Ларыса Геніюш дажыла да сённяшняга дня, што яна адчувала б, дзе была б? Сённяшняя беларуская рэчаіснасць па духу не надта адышла ад лагерных часоў.***

- Па-мойму ёй было б вельмі брыдка глядзець, якога «прэзі-дэнта» выбраў сабе народ. Дарэчы, у яе былі вельмі блізкія стасункі з Пазьняком. Яна яму на кніжцы напісала: «У цябе ёсць адна каханая -- Беларусь». Ён аж скалануўся.

Яна да сцягоў ставілася - надзвычайна. У той час былі вельмі папулярныя чэшскія хакейсты. І калі па тэлебачанні пачыналі граць гімн, яна ўставала. «Я не магу, - кажа, - слухаць гэты гімн седзячы». Бел-чырвона-белы сцяг быў для яе ўсім. І перажыць тое, як здымалі гэты сцяг, для яе было б цяжка.

***- Данута Янаўна, хацелі б Вы папрасіць прабачэння ў Геніюш?***

- Колькі хочаш. Але перш за ўсё, вось за што. Калі яна памірала, я прыйшла і па-свінску яе ўгаворваю: «Напішыце запавет на свае рэчы». Ёй трэба было напісаць адзін толькі сказ: «Хачу, каб у маім доме быў мемарыяльны музей». А яна пачала на мяне крычаць: «Данулся, як ты можаш мяне хаваць, я ж яшчэ не памерла! Ды ў мяне ж сын ёсць, унук ёсць». Я не ведала, як ёй растлумачыць, што гэтага мала, што мы жывем у нялюдскай савецкай дзяржаве...

Гутарыў Павал Мажэйка, ("Пагоня")

# Скарынаўскі цэнтр запальвае сьвечкі

Кірыла ПАЗЬНЯК

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны няма электрычнасці. Мінскія камунальныя службы адключылі яе з-за запазычанасці Скарынаўскага цэнтру па арэнднай плаце.

Кіраўніцтва Цэнтру даводзіць, што гэтак сталася з прычыны благога фінансаваньня ўстановы міністэрствам адукацыі, у сістэму якога яна ўваходзіць. Дырэктарка Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтру імя Ф. Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік кажа, што мінадукацыі выдаткоўвае Скарынаўскаму цэнтру грошы на ўсё агулам: яны даюцца быццам на навуку, аднак ажно трацiна з іх ідзе на камунальныя плацяжы і зарплату супрацоўнікам. Да таго сумы фінансаваньня настолькі мізэрныя, што не стае ні на першае, ні на другое. Напрыклад, на 2001 год Цэнтру замест неабходных як мінімум 150 мільёнаў рублёў выдзелена 50.

Фінансавы крызіс у Скарынаўскім цэнтры доўжыцца ўжо цягам некалькіх месяцаў. Летась апошнія два месяцы грошай не было зусім, навукоўцам не плацілі заробак, бо арганізацыя зарана вычарпала ўвесь свой небагаты мінулагодні бюджэт.

Л. Уладыкоўская наракае на тое, што ў міністэрстве адукацыі да Цэнтру ставяцца як да звычайнай адукацыйнай установы, не ўлічваючы ягоную навуковую дзейнасць: «навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны займаецца навуковым абгрунтаваннем незалежнасці Беларусі і паўнавартасці беларускай нацыі і дзяржавы», а дзяржава «фактычна пускае яго пад нож». У Скарынаўскім цэнтры ляжыць ліст з міністэрства адукацыі, у якім чыноўнікі яшчэ і цынічна папярэджваюць, што ў выніку сістэматычных нявыплатаў супрацоўнікам заробку можа быць пакаранае не толькі яе кіраўніцтва, але і наогул зліквідаваны сам Цэнтр.

Зараз, па словах Л. Уладыкоўскай, «сітуацыя катастрафічная»: не функцыянуе камптарная тэхніка, а такім навукоўцам, як Адам Мальдзіс, даводзіцца працаваць увечары пры сьвечках. Нібыта і не пачатак 21-га стагоддзя.

# Бэрмудзкі трохкутнік,
## *або Ня трэба гуляць у расейцаў*

...Сваім зьняважлівым стаўленьнем да адной з кандыдатураў аб'яднанай апазыцыі, якая цяпер знаходзіцца на першым месцы паводле сваёй папулярнасьці — гэта Сямён Домаш, — вызначылася "БДГ". 27 сьнежня 2000 г. у ёй сп.Дзятліковіч напісаў артыкул "Гарэлка коштам піва", дзе выкарыстаў беларускамоўныя цытаты, так як робіць гэта Лукашэнка, калі хоча прынізіць свайго апанэнта.

Чаго вартае толькі адно яго выказваньне "каб перамагчы, нават мала гаварыць з народам на яго мове". Гэта прамы папрок Домашу за яго сьціплую беларускасьць, якую ён шырока не выяўляў, *але ў адрозьненьне ад іншых*, ніколі яе не цураўся.

Вельмі добра, што пакуль сп.Домаш ня бегае на паклон у Маскву, як рабіў гэта ў свой час Віктар Ганчар, каб атрымаць некалькі хвілінаў на расейскім тэлебачаньні. Як бачым, яму гэта не дапамагло, а хутчэй, наадварот, паскорыла трагічную разьвязку ягонай палітычнай кар'еры.

**Якім павінен быць кандыдат сьвядомых грамадзянаў Беларусі?**

Я доўга думаў аб гэтым, тым больш, што браў актыўны ўдзел у прэзыдэнцкай кампаніі 1994 г. Перамагчы ворага можна толькі той зброяй, якой у яго няма, якой ён ня любіць і вельмі баіцца. Наша зброя – актыўная беларуская апазыцыя. Яе прыкметы – літаратурная беларуская мова і высокая культура паводзінаў у любой сытуацыі, а таксама добры гумар і ветлая ўсьмешка на твары. Таму наш кандыдат павінен у беларускамоўных і асабліва ў "дзьвюхмоўных" сродках масавай інфармацыі, асабліва на старонках "Народнай Волі", выступаць толькі па-беларуску. Зборшчыкі подпісаў за яго павінны карыстацца толькі беларускамоўнымі бланкамі і шырока ўжываць беларускую мову ў часе кантактаў з насельніцтвам.

Уся рэкламная прадукцыя нашага кандыдата павінна друкавацца па-беларуску, і толькі ўлёткі з праграмай могуць быць дзьвюхмоўнымі, каб другі бок улёткі ня быў чыстым.

Усе выказваньні, што народ у нас не разумее і не гаворыць па-беларуску – поўная хлусьня. Наадварот, вынікі апошняга перапісу 1999 г. сьведчаць аб тым, што пераважная большасьць насельніцтва нашай краіны, вядома, за выняткам расейцаў (*і то ня ўсіх!*) ня ведае добра расейскай мовы. А якраз-такі менскія "русотяпы" кепска ведаюць свой народ, бо, калі скарыстацца зь іхнага ж улюбленага выразу, "ніколі не выяжджаюць далей кальцавой дарогі".

Вось вынікі перапісу, які нядаўна атрымала ТБМ пасьля неаднаразовых зваротаў у міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.

Трэба падкрэсьліць, што ў 1999 г. з 10045200 грамадзянаў Беларусі роднаю моваю назвалі беларускую 73,7%, а расейскую мову – толькі 24%.

Нашую тэзу пацьвярджае і няўдалая спроба некаторых беларускіх адраджэнцаў пагуляць на полі расейскамоўнага электарату.

Напрыклад, прыхільнікаў Мікалая Статкевіча, якія вельмі хацелі патрапіць у чарговую палату і сьвядома адмовіліся ад матчынай мовы падчас выбараў.

Толькі шчырая беларуская пазыцыя адразу дае нам тыя 37% галасоў грамадзянаў Беларусі, якія сьведама падчас перапісу напісалі, што штодня карыстаюцца беларускай мовай і прагаласуюць за сьвядомага беларуса, а не чарговага маскоўскага прыхвасьня.

**Караля робіць яго сьвіта**

Калі мы хочам паказаць усяму сьвету нашу беларускасьць, мы ўжо цяпер павінны скласьці адпаведную каманду, не чакаючы вынікаў кулуарных перамоваў аб'яднанай апазыцыі, дзе далёка ня ўсе падзяляюць нашыя погляды. Больш за тое, калі гэтая каманда будзе створаная цягам студзеня-лютага, дык тады ўжо любы дэмакратычны кандыдат будзе ад яе залежаць. Спачатку трэба мець магутную групу па зборы подпісаў за нашага кандыдата.

Ідэальная колькасьць – 10000 сьвядомых грамадзян Беларусі, якія штодня гавораць на мове тутэйшай нацыі і карыстаюцца павагай сярод людзей па месцы працы й жыхарства.

Калі кожны зь іх зьбярэ па 100 подпісаў, а гэта вельмі лёгка зрабіць, мы атрымаем 1 млн. подпісаў. Хай паспрабуюць тады не зарэгістраваць нашага кандыдата!

Маючы такую колькасьць зборшчыкаў, ня трэба грукацца ў кожную кватэру і лаяцца з прыхільнікамі Лукашэнкі альбо іншага маскоўскага кандыдата. Варта толькі зьвярнуцца да тых, хто ў 1994 г. прагаласаваў за Шушкевіча і Пазьняка, да той моладзі, якая на той час ня мела 18 гадоў; указаць дакладныя месцы, дзе іх чакаюць з асабістымі пашпартамі, і мільён подпісаў забясьпечаны.

Галоўнае, каб нашыя людзі былі ў кожным мястэчку і вялікай вёсцы, каб іх усе ведалі і паважалі.

На гэтым этапе можна карыстацца наступнымі лёзунгамі, якія могуць прыцягнуць разумных людзей.

1. *Усе на выбары!* Чым болей прыйдзе, тым цяжэй падтасаваць вынікі і прагаласаваць за "мёртвыя душы".

2. *Толькі* ***новы*** *прэзыдэнт разам з намі зробіць нашае жыцьцё лепшым!*

3. *Наша мэта — не замяніць Лукашэнку Сідарэнкам, а палепшыць нашае жыцьцё, дзякуючы новаму Прэзыдэнту і яго прафэсійнай камандзе.*

4. *Жыць па сродках! Ніякіх даўгоў Расеі і іншым краінам. Годзе сьвяткаваць за народныя грошы "Дажынкі" і будаваць лядовыя палацы.*

Пра Лукашэнку трэба казаць наступнае:

ён вельмі шчыры і праўдзівы, але даверлівы, у людзях не разьбіраецца, бо ня меў кіраўнічага досьведу. Яму сем гадоў перашкаджалі працаваць бюракраты і хабарнікі, таму хай адпачне, а мы абярэм больш надзейнага і дасьведчанага чалавека, якога будзе цяжка падмануць махлярам і абібокам.

Хай адпачне, папрацуе зноў у родным саўгасе альбо настаўнікам у школе, пажыве ў роднай сям'і і добра выхавае ўнукаў. Тым болей, што прыжыцьцёва помнік у Шклове ад новай улады і пэнсія ў памеры пэнсіі Шушкевіча ці Грыба будуць яму гарантаваны.

Наступны этап – гэта праца зь сябрамі выбарчых камісій і нагляд за ходам выбараў.

Трэба кожнаму сябру выбарчых камісій усіх узроўняў напісаць ліст з патрабаваньнем паводзіць сябе пры падліку галасоў і ў іншых сытуацыях сумленна (да лісту варта дадаць вытрымку з крымінальнага кодэксу аб сродках пакараньня за парушэньне выбарчага закону).

Мы павінны патрабаваць і беларускамоўных бланкаў пратаколаў выбарчых камісій, як і іншых дакумэнтаў ужо зараз, не чакаючы, пакуль іх надрукуюць. Гэта датычыцца і запрашэньняў да ўдзелу ў выбарах. Самае галоўнае — гэта нагляд за ходам выбараў. У сваім апошнім інтэрвію газэце "Наша Свабода" ад 5 студзеня 2001 г. сп.Лявонаў – вопытны намэнклятуршчык і ахвяра празьмернай даверлівасьці да кіраўніка нашай дзяржавы — правільна адзначыў:

"Дорага абыдуцца ня выбары, а кантроль за імі. Калі самы пільны кантроль не наладзіць, то ўвогуле няма сэнсу праводзіць выбары".

Таму мы павінны мець каманду назіральнікаў колькасьцю ня меней за 21 тыс. асобаў і адпаведныя сьпісы да 1 сакавіка.

Сьвядомыя людзі, якія хочуць і могуць быць зьбіральнікамі подпісаў ці назіральнікамі, ужо зараз мусяць зьвяртацца з прапановамі да кіраўніцтва недзяржаўных арганізацыяў, незалежных прафсаюзаў, дэмакратычных партыяў, незалежных СМІ з прапановаю сваіх паслугаў, каб іх маглі ўзяць на ўлік і праводзіць зь імі занятки і трэнінг. Сярод гэтых людзей найбольш карыснымі могуць быць настаўнікі, мэдыкі, фармацэўты, работнікі сувязі і ашчадбанкаў, прадпрымальнікі і гандляры, работнікі культуры (асабліва бібліятэкаркі), моладзь (найперш студэнты), вадзіцелі грамадзкага транспарту і ўсе тыя, хто ўмее працаваць зь людзьмі.

**Асноўныя тэзы нашай праграмы**

Праграма-мінімум. Выконваецца да канца 2001 г.

1. Увядзеньне стабільнай валюты і прывязка яе да даляра ЗША альбо нямецкай маркі
2. Зьніжэньне падаткаў для ўсіх катэгорый падаткаплатнікаў да 13%
3. Судовая рэформа і амністыя дробным злачынцам
4. Свабода СМІ – стварэньне недзяржаўнага БТ і радыё
5. Скарачэньне міліцыі напалову
6. Скарачэньне апарату чынавенства да 30%
7. Падвышэньне заробкаў работнікам бюджэтнай сфэры (у першую чаргу настаўнікам, мэдыкам і работнікам культуры)
8.Разьвіццё свабоднага прадпрымальніцтва, стварэньне ўмоваў для дробнага і аптовага гандлю
9. Вяртаньне нацыянальнай сымболікі, наданьне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, адкрыццё Беларускага нацыянальнага ўнівэрсытэту
10. Вяртаньне вернікам усіх канфэсіяў забранай у іх бальшавікамі маёмасьці
11. Грашовыя субсыдыі і льготы інвалідам, адзінокім мацяркам, моладзі (студэнтам) і ахвярам палітычных рэпрэсіяў

Гэтая праграма, вядома, умоўная і можа быць дапрацаваная і дапоўненая. Людзі павінны ведаць, што на працягу пяці гадоў пасьля яе выкананьня іх жыцьцё значна палепшыцца, павялічыцца нараджальнасьць і палепшыцца экалёгія.

Калі кандыдат ад дэмакратычнай аб'яднанай апазыцыі пагодзіцца ўзяць пункты гэтай Праграмы за аснову, назаве імёны будучых міністраў і іншых адказных асобаў у сваім атачэньні, зь ім можна мець справу. Адзіная дадатковая ўмова – будучы ўрад і адміністрацыя Прэзыдэнта павінны працаваць на беларускай мове, шанаваць і ведаць сваю гісторыю і культуру. Толькі тады палепшыцца дабрабыт і адбудзецца вяртаньне ў Эўропу, якога дасягнулі нашыя суседзі на захадзе і поўначы.

Калі ж гэтага не адбудзецца, то ці варта нам чарговы раз цягаць каштаны з вогнішча для расейскамоўнага "дэмакрата", які, замяніўшы чалавека, што размаўляе на трасянцы, заменіць ягоную "капусту" на бусла ці зубра замест нашай спрадвечнай "Пагоні"?

Калі сярод сёньняшняй намэнклятуры ня знойдзецца беларускага Каштуніцы ці Бразаўскаса, дык нашая каманда, калі яна паўстане да сакавіка ці красавіка, можа вылучыць Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча ці Радзіма Гарэцкага. Паверце мне, яны ніколі ня здрадзяць Беларусі і яе спрадвечнай душы ў цяжкі для Бацькаўшчыны момант.

Нам трэба добра падумаць, што лепей для Беларусі на пэрспэктыву: перамога новага кандыдата Масквы ці Лукашэнкі? Бо хто можа даць гарантыю, што новы расейскамоўны прэзыдэнт ня здасьць нас Расеі на нейкай новай, ужо легітымнай умове, пры маўклівай падтрымцы Захаду ўзамен за трубу з газам ці нафтай?

Калі ж мы прайграем, але наш кандыдат возьме некалькі мільёнаў галасоў і пераможа новы маскоўскі кандыдат, узьнікне новая палітычная сытуацыя, зь якой усе будуць лічыцца. Менавіта тады эмісары Масквы самі прыедуць у Менск, каб дамовіцца з нашым лідэрам, бо наступная перамога ўжо за намі.

Калі пераможа Лукашэнка, а наш кандыдат зойме другое месца, то сытуацыя зноў стане аналягічнай, і Масква будзе лічыцца з нашай сілай, бо яна заўжды прызнавала толькі яе.

Дзеля таго каб Беларусь больш не была чорнаю дзірою ў цэнтры Эўропы і не нагадвала бэрмудзкага трохкутніка, трэба, каб усе яе куты і дыяганалі сталі беларускімі.

**Алег Трусаў** (Наша Ніва)

---

*У Менску адбылася канфэрэнцыя "Беларусь: на шляху ў трэцяе тысячагодзьдзе". Арганізатары — грамадзкае аб'яднаньне "Беларускія фабрыкі думкі" й Фонд МасArtur'аў. Эканамісты, палітолягі й сацыёлягі прадставілі свае дасьледаваньні сучаснага стану Беларусі й погляд на пэрспэктывы развіцьця краіны.*

**Многія спадзяваліся пачуць на канфэрэнцыі прамову амбасадара ЗША ў Беларусі спадара Козака. Але спадара амбасадара не было ў Менску, таму ягоны даклад ("Зьнешняя палітыка ЗША ў XXI стагодзьдзі") зачытаў намесьнік кіраўніка амэрыканскай місіі ў Беларусі Джон Кунстатэр...**

# ТАТАЛІТАРЫЗМ — ЯК ПРЫЧЫНА РОСТУ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСЬВЯДОМАСЬЦІ

## СПОВЕДЗЬ МАЛАДОГА БЕЛАРУСА

— Чаму я стаў апазіцыянерам? За гэта Лукашэнку трэба аддзячыць. Першы раз мяне ў пастарунак зацягнулі, калі улёткі бэнээфаўскія расклейваў. На ўлік паставілі, па нырках дубінкай прайшліся, смаркачомапазіцыянерам назвалі. Баявое хрышчэньне, так бы мовіць. Потым Лукашэнка сімволіку зьмяніў, як быццам скраў штосьці мае асабістае. А яшчэ фільм Азаронка «Нянавісьць. Дзеці маны.» ў свой час агаломшыў — зноў як дубінкай па галаве. Якая можа быць рэакцыя на лухту і абразы? Толькі супраціў! Вось з 14 год і стаў сябрам маладзёвай фракцыі Народнага фронту. Свае правы трэба адстойваць да апошняга! Права на мову, права на гісторыю, на праўду ў рэшце рэшт. Не разумею, як можна трываць лукашэнкаўскую хлусьню ды несправядлівасьць.У кожнай школе вывучаюць правы чалавека. Няўжо звыкліся, што правы гэтыя ў Беларусі ледзь ня штохвілінна парушаюцца? А я ніколі не трываў і не зьбіраюся! З пазамінулага году — у Беларускай партыі свабоды. І вельмі задаволены, што выконваю тут далёка не апошнюю ролю. Я беларус і раблю сваю Беларусь уласнымі рукамі! Нашая партыя — як таран перад усімі прэзідэнцкімі заслонамі!

***— А дакладней, Юрась, у чым вашыя задачы?***

— Праблемы нацыянальнага для нас вышэй за палітычныя. Колькі ўжо можна казаць пра плаўны пераход да беларусізацыі?! Надакучыла бясконца чакаць! Мы — за канкрэтныя і рашучыя дзеяньні...

***— З каменем супраць міліцэйскіх дубінак?***

— Ды справа ня толькі ў гэтым. Тым больш, што на мянтоў апошнім часам і наракаць не даводзіцца. І яны ж беларусы, і яны пачалі разумець, што рэжым Лукашэнкі прагніў ушчэнт. Так што на апошніх апазіцыйных акцыях свае абавязкі міліцыянты-шарагоўцы выконваюць ужо, як здаецца, упаўсілы. І прыкладаў таму шмат. Вось сёлета 12 лістапада, калі патрабавалі пераменаў, двух нашых амапаўцы ў свой аўтобус зацягнулі. Пратрымалі некалькі хвілінаў дый выпусьцілі праз заднія дзьверы цішком. Маўляў, давайце, хлопцы, хутчэй ногі рабіце пакуль афіцэры ня бачаць. Сорамна ўжо міліцыянтам сваіх абражаць ды зьбіваць... А наконт задачаў нашых так скажу. БПС — партыя радыкальная. А як інакш?! Гэта на словах Беларусь незалежная. Фактычна акупаваныя мы з усіх бакоў чужынцамі бязроднымі. Дый ня толькі з бакоў, а і знутры. З усёй гэтай пошасьцю і змагаемся. Любому парушэньню нашых чалавечых правоў адразу супрацьпастаўляем канкрэтныя дзеяньні. Так, іншым разам сілавыя. Напрыклад, мы — адзіная партыя, якая вынікова змагаецца з беларускімі баркашоўцамі. Успомніце, што было ў Мінску яшчэ нядаўна. Улёткі РНЕ на кожным слупе, ледзь не адкрытыя фашыстоўскія шэсьці на вуліцах ды пляцах. Дык хто ўрэшце ў доме гаспадар?! Асабліва злавала, што на кожнага нашага затрыманага міліцыянтам — абавязкова пратакол, а на баркашоўца — ніколі (знаёмыя мянтышарагоўцы прызналіся). Вось і атрымліваецца, што ўлады гэтым фашыстоўцам ледзьве ня ногі цалуюць. Збавіцелі нацыі! Вось мы імі і заняліся ўшчыльную... Зараз не яны сваю волю дыктуюць, а мы. Дый на вуліцах мінскіх стала спакайней...

***— А моладзь вас падтрымлівае?***

— Падтрымае, калі час прыйдзе. Я ж студэнт. Бачу, якія ў Мінску настроі сярод юнакоў і дзяўчат. Адсоткаў 2025 — за апазіцыю ў адкрытую і словам, і справай; яшчэ дзесьці 30 адсоткаў — сёньняшняй дзяржаўнай палітыкай хоць і моўчкі, але не задаволеныя. А другая палова — аморфная маса. Зацюканая і запалоханая. Бэпэсээмаўцы з правіцыі, якія ў Мінску толькі годдург. Задурылі ім у свой час галовы, прымусілі няпраўдамі дзядзьку Лукашэнку баяцца. А што яго баяцца, бязроднага?! Карацей, калі будзе прэзідэнту сёньняшняму канкрэтная разумная ды цікавая альтэрнатыва, моладзь за ёй пойдзе без асаблівых ваганьняў...

***— Дык, кажаш, не баішся нічога?***

— Не баюся! Адлічаць з інстытута? Пасадзяць за краты? Ды няхай. На калені ж усё роўна не паставяць. Гэта маё права — заставацца ў Беларусі беларусам! Вось і адстойваю яго ўсімі сіламі і сродкамі. Дарэчы, сапраўдны беларус толькі гэтым спрадвеку і займаўся. Так што ўсе мы ледзь не прафесійныя змагары за сваё, кроўнае... Натуральна, задумваўся, як будучыня складзецца можа. Скажам, арыштуюць і з інстытуту пагоняць. Эміграцыя? Не! З Беларусі ня зьеду — справаў тут неадкладных шмат. А ўзнавіцца на вучобе заўжды пасьпею, калі ўрад зменіцца. За краты кінуць? Маральна і да гэтага гатовы. Дый фізічна таксама... Выпадак адзін да месца прыгадаю. Вельмі ўжо красамоўны ён. Выходзім аднойчы з пераходу з сябрамі, пабеларуску размаўляем. А ззаду кампанія — мажоры, так званая «моладзь залатая». Нам у сьпіны: калгасьнікі, памужыцку размаўляеце. Адзін з нашых і не вытрымаў: трох тых на калені хуценька паставіў ды прабачэньня прымусіў папрасіць. Справядліва? Справядліва! Мы ж ня госьці, мы ж на сваёй зямлі, беларускай. А тут міліцыянты. Затрымалі ўсіх. У гэтых «залатых» бацькі аказаліся высокімі начальнічкамі. Дзесьці ледзь не пад Лукашэнкам працуюць. Нашага за «хуліганцтва» на Валадарку на месяц. Сярод блатных сядзеў, пакуль пад падпіску ня выпусьцілі. Малайчына, вытрымаў, нават сярод блатных аўтарытэтам карыстаўся. Хоць і зэкі, а Беларусьматухну паважаюць... І кожны з нашай партыі менавіта такі, правераны, сьвядомы, гатовы да ўсяго, бо перакананы, што сістэме Лукашэнкі супрацьпаставіць можна толькі сістэму.... Няхай саджаюць, зьлейшымі будзем.

***— А ў чым, Юрась, сістэма вашая?***

— Не сакрэт для кожнага, што апазіцыя ў цэлым надта кепска структурызаваная. Вось у межах сваёй партыі і пазбаўляемся ад гэтага недахопу. За кожным мерапрыемствам — сур'ёзная арганізацыйная падрыхтоўка. Ды плюс адзінства шэрагаў. Адзін за аднаго — гарой. Мяне ж некалькі разоў на акцыях затрымлівалі (на Маршах свабоды, на Чарнобыльскім шляху) і амапаўцы, і гэбэшнікі рукі выломвалі. Дык кожны раз свае адбівалі. Усе ўмеюць гэта рабіць прафесійна. Бо раз на два тыдні абавязкова выязджаем на прыроду, на вышкалытрэніроўкі. Арэндуем спартовыя залы. (Бачылі па тэлебачаньні, як баркашоўцы за горадам трэніруюцца? Улады пра гэта ледзь не з замілаваньнем распавядаюць, а нас — адразу ў экстрэмісты запісваюць. Што зробіш — улады такія...). Ледзь не на першым месцы ў нас і прапаганда з агітацыяй. Гэта і ўлёткі, і гутаркі, і сумесныя культурніцкія мерапрыемствы, і паказ відэафільмаў. Карацей, кожны наш крок па магчымасьці прадуманы і падрыхтаваны. Набіраем сілы...

...Я беларускі патрыёт, або, як у нас кажуць — нацыяналіст, бо нацыяналізм — ідэалогія дабрыні. Скарына і Каліноўскі — нацыяналісты. А хто памятае прозвішчы здраднікаў?..

Мы ідзем з Юрасём па вуліцы. Размаўляем пабеларуску. Два міліцыянты на аўтобусным прыпынку насьцярожана прыслухоўваюцца. Я гляджу ў твар маладога бязвусага сяржанта. Яму, як і Юрасю, недзе пад дваццаць. Ён адводзіць вочы. Насьцярожанае маўчаньне рэжыму саступае на гэты раз мове апазіцыі.

...Лукашэнка не аднойчы заяўляў з вышыні свайго ўладарнага становішча,што ні ў якім разе не дапусціць на Беларусі грамадзянскай вайны... Грамадзянская вайна ўжо даўно разьвязаная. Ім самім. І ня толькі ў розумах. На вуліцах і пляцах.У час маршаў пратэсту, страйкаў і дэманстрацыяў. Паранейшаму затрымліваюць непаўнагадовых. Паранейшаму галоўным аргументам у палітычных спрэчках — ня толькі хлусьня, але і дубінка міліцыянта... Але на сілу заўжды знаходзіцца сіла.

**Алесь ГАРКУН.**

**У штодзённай мітусьні і дрымоце, — не забывайце дапамагаць нашай газэце!.**

# Угодкі кузьні нацыянальных кадраў

**Севярын Квяткоўскі,** (Радыё "Рацыя")

**Беларускі Гуманітарна-Адукацыйны Ліцэй адзначыў 10-я ўгодкі свайго нараджэньня 15 студзеня. Ліцэй стаўся першай у найноўшы час сапраўды беларускамоўнаю навучальнай установаю. Ад пачатку Ліцэй звалі "кузьняю беларускіх нацыянальных кадраў". У кожным выпадку, Беларускі Гуманітарна-Адукацыйны Ліцэй застаецца адзінай у сваім жанры навучальнай установаю краіны.**

**Беларускі Гуманітарна-Адукацыйны Ліцэй скарочана завуць "Коласаўскім" - паводле прозьвішча стваральніка ўстановы Ўладзімера Коласа. Унікальнасьць Коласаўскага Ліцэю палягае ня толькі й ня столькі ў беларускай мове навучаньня, колькі ў асобах, якія выкладалі ў Ліцэі. Напрыклад, Вінцук Вячорка, Лявон Баршчэўскі, Міхась Тычына, Васіль Сёмуха, Павал Лойка, Анатоль Сідарэвіч ды іншыя. На меркаваньне Ўладзімера Коласа, яшчэ адна адметнасьць Ліцэю - рэгулярнае ладжаньне сустрэчаў вучняў з выбітнымі асобамі сучаснае беларускае культуры. Дык чым адрозьніваецца сёньняшні Ліцэй, ад колішняга, дзесяцігадовае даўніны.**

**<u>Адказвае Ўладзімер Колас:</u> - Сытуацыя цалкам не трансфармавалася ў тое, пра што мы марылі й працягваем марыць. Тым ня менш, шмат ад каго зь людзей, якія працуюць у такіх арганізацыях, установах як рэдакцыі газэт, як няўрадавыя арганізацыі, у тым ліку моладзёвыя й ня толькі, дэмакратычныя, - неадразова я чуў такія водгукі, што яны не ўяўляюць, як бы гэтыя выданьні й арганізацыі існавалі, калі б не было Ліцэю, калі б не было тых кадраў, якія ён выдае. Таму адчуваньне таго, што ўсё ж такі нешта зрабілі й нейкую карысьць прынесьлі, -- ёсьць.**

**Гаворачы пра няспраўджаныя мары, спадар Колас найперш мае на ўвазе сытуацыю ў краіне цалкам. Як і мноства іншых беларускіх культурніцкіх ды грамадзкіх арганізацыяў, апошнія гады Ліцэй адчуваў на сябе цень дамоклавага мяча - пагрозу закрыцьця. Сёньня будынак не належыць Ліцэю, а сам Уладзімер Колас фармальна стаўся намесьнікам дырэктара.**

**Да таго ж, чыясьці чынавецкая галава, нібы жартам, надала ліцэю імя Якуба Коласа. Верагодна, каб Уладзімер Колас не зазнаваўся. Спадара Ўладзімера мала абыходзяць "жарты" ўлады. Ён усьцешаны ўжо тым, што Ліцэй з будынку не высяляюць і што Ліцэй знаходзіцца ў будынку свайго нараджэньня бясплатна й бестэрмінова.**

**Чаму навучаюць у Ліцэі, апрача стандартнае праграмы? У раскладзе занятказ можна пабачыць эканоміку, лёгіку, гісторыю й культуру беларускае мовы, гісторыю музыкі, архітэктуры й шмат чаго іншага. Па сьведчаньнях выпускнікоў, ліцэісты атрымліваюць аб'ём ведаў, прадугледжаны для першых курсаў унівэрсытэту.**

**<u>У.К.:</u> - Іх надта многа - гэтых дысцыплінаў. Усе яны цікавыя, усё гэта добра, але фізічна гэта не магчыма. Гэта вынікае ўвогуле з савецкае сыстэмы, яна пабудаваная на ўтопіі. Яна пабудаваная на нейкіх абстрактных парамэтрах, на нейкіх абстрактных стандартах, якія бязлігічна чалавеку проста не магчыма выканаць. Гэта проста анамалія -- тыя, хто па ўсіх дысцыплінах пасьпявае на "выдатна".**

**Ня кожны здужае вытрымаць інтэнсіўнасьць навучаньня ў Коласаўскім Ліцэі. Але штогод будучых навучэнцаў набіраюць на конкурснай аснове. Дык у чым прыцягальнасьць установы? Вось адказы некалькіх навучэнак:**

***- Ліцэй для мяне шмат што значыць. Перад тым я вучылася ў звычайнай школе, прычым у цалкам рускамоўнай. Але пачала вучобу з малодшых клясаў на беларускай мове, і таму вельмі хацела працягваць навучаньне на роднай мове, хацела атрымаць сапраўды добрую адукацыю.***

***- У нас заняткі скончыліся ў 2 гадзіны, зараз 5 гадзінаў, а мы тут. Каб нам тут было дрэнна, то мы б ужо даўным-даўно сядзелі дома.***

***- Дадаць да гэтага няма чаго - тут усё ідэальна.***

***- Ліцэй гэта штосьці большае за школу, гэта настолькі ідылія! Тут, па-першае, паважаюць адзін аднаго, дапамагаюць заўсёды, ніколі не аставяць цябе без дапамогі, і тут адчуваеш сябе значна лепш.***

**Вядома, Беларускі Гуманітарна-Адукацыйны Ліцэй далёка не ідэальнае месца. Але патрыятызм ліцэістак гаворыць сам за сябе. Прынамсі, у дзень народзінаў віноўнікам урачыстасьці можна дазволіць не казаць аб праблемах. У кожным выпадку, добра, што Ліцэй ёсьць такі, які ёсьць.**

# Роля беларускай дыяспары ў сучаснай гісторыі Беларусі і пэрспэктывы яе захаваньня ў сьвеце.

"Істотнаю прыкметаю гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя стала зьяўленьне ў ёй новага паняцьця – "беларуская дыяспара", што абазначае тую частку нацыі, якая жыве ў замежжы. Свае меркаваньні пра ролю беларускай дыяспары, пра далейшае яе захаваньне ў сьвеце выказваюць вядомыя дзеячы беларускага замежжа – Янка Запруднік, Сакрат Яновіч і Хведар Нюнька.

Напачатку Янка Запруднік са Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Сп. Янка, як Вы, грамадзкі дзеяч, гісторык, аўтар кнігі "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях" ацэньваеце ролю беларускай дыяспары ў сучаснай гісторыі Беларусі?"

(Запруднік:) "Асноўная роля беларускай эміграцыі, я маю на ўвазе заходнюю эміграцыю, палягала, найперш, ў перахоўваньні ідэі незалежнае дэмакратычнае Беларусі, а таксама дакумэнтальнае спадчыны, якая сьведчыла пра змаганьне беларускага народу за сваю дзяржаўнасьць. Важнай была дзейнасьць эміграцыі і ў захаваньні літаратурнай спадчыны тых пісьменьнікаў, якіх савецкая цэнзура забараняла або фальсыфікавала. На эміграцыі таксама было напісана многа твораў беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Былі напісаныя і навуковыя працы па гісторыі Беларусі на забароненыя ў савецкія часы тэмы. Увесь гэты ідэйны, дакумэнтальны і культурны набытак пасьля развалу Савецкага Саюзу вярнуўся на Бацькаўшчыну і цяпер працуе на ўмацаваньне беларускай нацыянальнай сьведамасьці і дзеля ўсталяваньня беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці.

Эміграцыя прапагандавала імя Беларусі ў сьвеце, найперш, у такіх краінах, як Англія, Францыя, Бэльгія, Злучаныя Штаты, Канада, Аўстралія.

Трэба таксама згадаць тую істотную дапамогу, якую дыяспара аказвала ахвярам чарнобыльскай аварыі ў Беларусі.

Матэрыяльна беларускія эмігранты дзе б яны не пасяліліся, здолелі ня толькі ўладзіць сваё жыцьцё, але змаглі забясьпечыць і сваім дзецям, у большасьці, вышэйшую асьвету. Пра што гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць пра тое, што дай беларусу магчымасьць працаваць на самога сябе, не абстаўляй яго чыноўнікамі, не душы падаткамі, як гэта робіцца цяпер у Беларусі, дык ён заробіць на сябе, на дзяцей сваіх і на дзяржаву".

(Сурмач:) "Як, на Вашую думку, выглядае беларуская дыяспара ў параўнаньні з іншымі?"

(Запруднік:) "Часамі гавораць, што беларуская эміграцыя слабейшая за эміграцыі іншых народаў. Ну і што! Беларуская эміграцыя меншая, скажам, за польскую ці ўкраінскую. Але і беларускі народ меншы за гэтыя суседнія народы. Безумоўна, нацыянальная сьведамасьць нашых людзей нізкая, але так яно склалося гістарычна. Гістарычныя абставіны ў кожнага народу былі іншыя. Беларускую эміграцыю трэба мераць беларускаю меркаю. Паводле маштабаў беларускага нацыянальнага жыцьця зробленае беларускай эміграцыяй і тое, што робіцца цяпер, выглядае, на маю думку, даволі салідна".

"Далей гутарым з вядомым пісьменьнікам з Беласточчыны Сакратам Яновічам.

Сп. Яновіч, Вы нядаўна выдалі новую кнігу "Наша тысяча гадоў", дзе закранулі таксама гістарычныя і сучасныя праблемы беларусаў на Беласточчыне. На парозе новага тысячагодзьдзя як Вам асабіста ўяўляюцца пэрспэктывы беларушчыны ў Польшчы?"

(Яновіч:) "Мне ўяўляецца гэта пэрспэктыва вельмі добраю. Беларусы ў Польшчы жывуць ва ўмовах свабоды, а там дзе свабода, там і выяўляецца ініцыятыва. Чалавек любіць быць ініцыятыўным, любіць нешта рабіць для сябе. Да таго ж беларусы ў Польшчы ня ёсьць эміграцыя, яны жывуць на сваёй зямлі, на сваёй тэрыторыі, якая апынулася ў Польскай дзяржаве. Мы не зьяўляемся меншасьцю, у сябе мы вялікая большасьць.

У нашых тут умовах стварылася поўная структура нацыі, якая павінна быць. Гэта значыць, што мы маем шматлікую інтэлігенцыю, маем шматлікія арганізацыі, маем свой парапатэнцыял. Мы ня вельмі залежныя ад каго-небудзь, бо маем сваю зямлю, свой лёс і сваю гісторыю. У кніжцы, пра якую Вы згадваеце, я аналізую нашу сытуацыю на працягу тысячы гадоў. Гэта якраз ужо есьць тысячу гадоў, як мы тут жывём".

"Спадар Сакрат, але адбываецца натуральная зьмена пакаленьняў, беларуская моладзь у Польшчы асымілюецца. Вось у гэтым кантэксце што б Вы маглі сказаць? Відавочна, што слабеюць гэтыя тысячагадовыя карані".

(Яновіч:) "Гэта нам толькі здаецца. Асыміляцыя ёсьць непазьбежная, але яна ні ёсьць пагрозьлівая ва ўмовах сваёй Айчыны, мы не эміграцыя".

"Сп. Сакрат, беларуская дыяспара ў замежжы – наколькі яна можа ўплываць на лёс самой Бацькаўшчыны-Беларусі?"

"Уплыў эміграцыі на лёс Бацькаўшчыны заўсёды быў і будзе вельмі невялікім таму, што гэта замежжа, гэта адарванасьць. Яе уплыў на разьвіцьцё падзеяў унутры краіны ня можа быць значным. Па гэтай прычыне кожны рэжым, кожная дыктатура намагаецца каб сваіх апанэнтаў, сваю апазыцыю выпхнуць за мяжу, у эміграцыю. Тады няма бяды з такой апазыцыяй, прадстаўнікі якой у эміграцыі, хочуць яны таго ці не, робяцца вельмі маргінальнымі".

"Трэба разумець, што Вы лічыце, што беларускае замежжа нельга ўсё ж прызнаць паўнацэннай часткаю нацыі?"

"Не, беларуская дыяспара зьяўляецца паўнацэннаю часткаю нацыі таму, што нацыя – гэта паняцьце шырокае, гэта людзі таго самага мэнталітэту, таго самага сьветапогляду, культуры, мовы. Толькі нацыя, на мой погляд, ня можа быць паўнацэнным элемэнтам палітыкі. Але ў сэнсе часткі нацыі дыяспара можа мець і мае, часам, вельмі вялікае значэньне ў справе захаваньня нацыянальнай памяці, нацыянальнай культуры".

"Аптымістычна на пытаньне пра далейшае захаваньне беларускай прысутнасьці ў суседняй Літве казаў і старшыня Таварыства беларускай культуры зь Вільні сп. Хведар Нюнька. Для гэтага аптымізму ёсьць падставы. У Літве створана пэўная інфраструктура беларускага жыцьця. Там дзейнічае каля дзесяці беларускіх суполак, у Вільні ёсьць дзіцячы садок, школа, беларускае радыё, газэты.

Аднак, сп. Хведар адзначыў, што праблема захаваньня беларускасьці сёньня актуальная ня столькі для дыяспары, колькі для самой нашай Бацькаўшчыны. Ён падзяліўся сумнымі ўражаньнямі ад паездкі ў Беларусь".

(Нюнька:) "Я нядаўна ўдзельнічаў у Кангрэсе беларусістаў у Менску. Едучы ў вагоне мэтро, поўным людзей, і размаўляючы па-беларуску, пачуў у свой адрас наступнае: "Вам пора в тюрьме сидеть, повылазили здесь". На гэта хамства шавініста ніхто з людзей не адрэагаваў. Я жыву ў Літве амаль 60 гадоў, але ніколі ня чуў, каб нехта з літоўцаў сказаў абразьліва пра нашую мову ці нацыю. Гэтак можа быць толькі там, дзе існуючы антыбеларускі рэжым падтрымлівае такое стаўленьне".

" Сп. Нюнька мае рацыю. Дэнацыяналізаваная краіна-маці ня можа служыць надзейнаю апораю для сваёй дыяспары ў сьвеце. Беларускае замежжа, якое выступае за незалежнасьць і дэмакратызацыю краіны, мусіць цяпер жыць ня толькі без падтрымкі зь Беларусі, але і адчуваючы варожасьць і перашкоды з боку беларускіх уладаў.

Аднак, нашая дыяспара, згуртаваная за апошніе дзесяцігодзьдзе, мае свой уласны патэнцыял для жыцьця. Можна спадзявацца, што беларуская прысутнасьць у сьвеце захаваецца і надалей. Прынамсі, такую ўпэўненасьць выказалі нашыя суразмоўцы з Польшчы і Літвы, дзе жыве значная частка замежных беларусаў.

Падобна, што нашай дыяспары ў бліжэйшай будучыні давядзецца выконваць тую ж самую ролю, як і папярэдняй заходняй эміграцыі, пра што гаварыў сп. Янка Запруднік. Беларускае замежжа можа зьяўляцца апораю для самой Беларусі ў справе захаваньня нацыянальных ідэалаў".

Радыё "Свабода", Прага.

**Славамір Адамовіч** ("Наша Ніва")

# Дабро і зло эміграцыі

Чужаземцы тоўпяцца каля параходных пристаняў. Сьветлавалосыя нарвэжцы, шыракатварыя швэды, палякі, мурзатыя, нізкарослыя, у клубах часнычнага паху, жыхары Міжземнаморскага ўзьбярэжжа, вялізныя славяне, тры кітайцы, некалькі паскарыйцаў.

Джон Дос Пасас "Мангетэн"

## Права на волю

Некаторыя мае знаёмыя кажуць, што ў Беларусі няма чаго рабіць з восені 1996 г. У тым сэнсе, што пасьля ўзмацненьня асабістай улады Лукашэнкі і ягоных падхалуйнікаў жывая, творчая праца і рост нашага дабрабыту на тэрыторыі Беларусі немагчымыя. Асабіста я мяркую, што жаданьні пакінуць Беларусь у многіх беларускіх грамадзянаў абвострацца ў апошнім квартале наступнага году — пры ўмове, што гэтым грамадзянам ня ўдасца адхіліць існуючы рэжым ад улады і паўзучая ліквідацыя Беларускай незалежнасьці будзе працягвацца. Яшчэ я думаю, што безумоўнае маральнае права на эміграцыю зь Беларусі яе грамадзяне атрымалі ня столькі восеньню 96-га, колькі вясною — пасьля ўцёкаў Зянона Пазьняка…

Добра гэта ці дрэнна, што мы любымі праўдамі й няпраўдамі імкнемся пакінуць Радзіму? Відаць, ні першае, ні другое. У мяне, напрыклад, атрымліваюцца вось якія адказы.

Нядобра пакідаць Радзіму, калі тут ты да апошняга моманту быў актыўным дзеячам нацыянальна-вызвольнага руху і на цябе раўняліся іншыя, асабліва моладзь.

Нядобра пакідаць сваё котлішча тады, калі ў твайго суседа для такога ўчынку ёсьць важнейшыя падставы.

Нядобра пакідаць Беларусь у час, калі вырашаецца лёс незалежнасьці гэтай краіны.

Вельмі нядобра пакідаць Бацькаўшчыну, калі тут ты ніводнай ночы ня быў Міронам, а за мяжою зьбіраешся прэтэндаваць на статус Пазьняка.

Двойчы нядобра, калі ты пакідаеш Беларусь як Беларус, а ў Нью-Ёрку ідзеш атрымліваць вэлфэр як Жыд…

Зрэшты, у зьяве, якую мы называем эміграцыяй, можна ўбачыць і станоўчыя бакі.

Напрыклад, гэта добра, калі ты пакідаеш Краіну з той прычыны, што табе абрыдла стаяць тут у чарзе па яйкі. Там ты настаішся ў чарзе па іхнае грамадзянства.

Добра, што прычынай ад'езду сынка вядомага беларускага пісьменьніка стаў вечна сьмярдзючы пад'езд яго менскага дому. Няхай цяпер сынок дае рады пахам Нью-Ёрку (Беларусі ў наш трывожлівы час патрэбны грамадзяне з моцнымі насамі).

Добра, што ты пакідаеш Беларусь, каб там зарабіць шмат грошай і стаць мэцэнатам беларускага мастацтва альбо фундатарам партыі нацыянальных інтарэсаў.

Добра, што ты пакідаеш тваю Краіну, практычна нічога ня ведаючы пра яе. Там ты вельмі хутка даведаешся пра ВКЛ і навучышся адрозьніваць бараду Багушэвіча ад барады Крэчэўскага.

Добра, што ты пакідаеш Краіну беларусам сьвядомым. Ёсьць надзея, што там ты зоймешся ня толькі бізнэсам, але станеш актыўным чыньнікам беларускага грамадзка-палітычнага жыцьця на чужыне.

Добра, што ўвогуле ты выбіраешся самаволяй на Захад, а не пад прымусам на Ўсход.

## Выбіраем Амэрыку?

З пачатку 90-х куды толькі нашы не выяжджалі: Бэльгія, Нямеччына, Францыя, Чэхія, Вялікабрытанія… Адзін тутэйшы сваю жонку зь дзіцем адвёз ажно ў Новую Зэляндыю (сам, праўда, вярнуўся, бо яму й тут пакуль што ўтульна). Але найбольш інтэнсыўна беларус цягнецца ў Паўночную Амэрыку. І правільна робіць, бо, як вядома, ЗША — краіна вялікіх

магчымасьцяў. Краіна, якая сёньня прапаноўвае і работу, і грошы. А нам, як вы разумееце, толькі гэта й трэба — акрамя ўсяго іншага.

## Што варта ведаць

Найперш трэба падрыхтавацца да праяваў амэрыканскай дэмакратыі, да як прыемнай, гэтак і непрыемнай драбязы.

Напэўна ж ты чуў, што ў нью-ёрскай падземцы брудна і сноўдаюць туды-сюды нахабныя пацукі. Гэтая сьвятая праўда. А вось да попельнага колеру вавёрак прывыкнуць цяжка, нават калі ведаеш пра гэта загадзя. Адно суцяшае: іхная векша некалі таксама была рыжай — выдаюць падпалінкі каля шыі і на лапках.

Калі ты дагэтуль марыш папіць тамтэйшага піўца каля якога-небудзь Ракфэлер-цэнтру, што ў Мангетэне, — пакінь надзею. У Нью-Ёрку алькаголь дазваляецца спажываць толькі ў закрытых памяшканьнях, якіх, што праўда, тысячы й тысячы.

Хвалёная амэрыканская ўсьмешка — гэта ня столькі знак ветлівасьці, колькі перасьцярогі: хто ведае, што ты там надумаў.

У Нью-Ёрку на кожнай стрыт/авэню штосьці будуюць альбо рамантуюць. Таму прахожым на галовы часта падаюць элемэнты будаўнічай вытворчасьці.

Калі раптам амэрыканскаму паліцэйскаму ўздумалася цябе затрымаць, найперш пакажы яму твае пустыя далоні. Гэта яго крыху супакоіць, і, магчыма, ён ня будзе падымаць гвалту й страляць без папярэджаньня.

Ад'яжджаючы ў ЗША, пакінь дома твае любімыя чорныя плаўкі. Амэрыканскія гетэрасэксуалы купаюцца выключна ў шортах па калена, а то і ніжэй. Манаполію на майткі там захапілі гамасэкі.

У Нью-Ёрку хлеб нясмачны й дарагі. Для нашага чалавека гэта зарэз. І адвыкнуць ад свайго не адвыкнеш, колькі б там ні жыў.

А вось ад цыгарэтаў адвыкай ужо зараз, калі зьбіраешся ў Нью-Ёрк. Там гэтая дрэнная звычка будзе каштаваць табе $4.50 за пачак любых цыгарэтаў зь фільтрам.

У белых красоўках там езьдзяць на працу.

У апошні дзень перад ад'ездам прайдзіся па тваім горадзе, паглядзі на нашых людзей. Лічы, што ты апошні раз бачыў стройных.

Гэта неверагодна, але Галівуд у сваіх фільмах паказвае сапраўднае амэрыканскае жыцьцё... бандытаў, наркаманаў, прастытутак ды рознай іншай сволачы. Павер, яе там хапае.

Гэта праўда, што ў ЗША ўсе працуюць з раніцы да вечара. Таму й багатыя.

О, колькі ў Амэрыцы мастоў! Мост "Залатыя вароты", напрыклад, які зьвязвае дзьве часткі Сан-Францыска. Альбо нью-ёрскія гіганты — Бруклінскі мост праз Іст-Рывэр і Вэразана-Нэроўз, які злучае Бруклін з выспай Стэйтан. Адным словам, цыкляпічныя збудаваньні ўражваюць і спакушаюць. Ды так, што час-часом маленькія чалавечыя фігуркі зрываюцца з архітэктурных шэдэўраў і тым завяршаюць сваё свабоднае жыцьцё ў свабоднай краіне.

Калі а 6-й вечара дзясяткі два рознакаляровых бугаёў кіль па 80–100 кожны на пляцоўцы, абгароджанай трохмэтровай сеткай, лупяць маленькімі мячыкамі ў сьцяну дому, а ты ледзь ногі цягнеш да сабвэю пасьля 10 гадзін работы на будоўлі, сілаў для абурэньня ўжо няма. Усё, што ты можаш, гэта падумаць: калі ў мяне будзе шмат грошай і вольнага часу, то не, ня стану я займацца такім глупствам.

Адзін токен (жэтон) на праезд у нью-ёрскай падземцы каштуе паўтара даляры, а праязная картка на сем дзён — сямнаццаць даляраў.

Што б ты дзе ні купляў — гандлюйся. Бывае, што ўпадабаную рэч можна купіць напалавіну танней ад першапачаткова заяўленай цаны.

## Як трапіць у ЗША?

Найлепш трапляць у гэтую краіну легальнымі шляхамі, атрымаўшы рабочую, студэнцкую, гасьцявую візу альбо выйграўшы так званую "Зялёную карту" ("Грын-карту"). Некаторую інфармацыю можна атрымаць у работнікаў амэрыканскага пасольства (уваход з боку вуліцы Камуністычнай у Менску) альбо з матэрыялаў інфармацыйнага стэнду гэтае ўстановы.

Можна ехаць і самадумам, спрабуючы трапіць у ЗША з Канады, напрыклад, альбо з Мэксыкі. Але гэткія варыянты лепш пакінуць натурам авантурыстычным.

Ведаю колькі беларусаў, якія паехалі ў Штаты сьледам за сваімі жонкамі-жыдоўкамі. Хто-ніхто зь іх кляне цяпер і сваё неразумнае жанімства, і краіну жончынай мары.

Ёсьць шанец трапіць у ЗША і па так званай "палітычнай часьці". На жаль, прыкладаў хапае: схадзіў раз-другі на мітынг, трапіў пад раздачу міліцэйскіх "гасьцінцаў", засьвяціў сваё прозьвішча ў праваабарончым бюлетэні — і можна сьмела шыбаваць у іхнае пасольства па візу. Глядзіш, праз які месяц ты ўжо па другі бок Атлянтычнага акіяну — рыхтуеш дакумэнты на палітпрытулак...

## Эміграцыя "новай хвалі"

На 24-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі Старшыня Вярхоўнай Рады 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі заявіў, што новае — 90-х гадоў — рушэньне беларусаў на Захад трэба называць палітычнай эміграцыяй. Аднак прысутны на згаданым мерапрыемстве паліт-эмігрант Зянон Пазьняк сказаў нешта процілеглае: на яго думку, новая беларуская эміграцыя мае пад сабой эканамічны грунт. Што ж, як той казаў, і дзед мае рацыю, і тата. Аб'яднаўшы гэтыя дзьве пазыцыі, мы можам атрымаць больш-менш аб'ектыўную карціну: сёньняшняя беларуская эміграцыя "новай хвалі" зьяўляецца палітыка-эканамічнай. Характэрнымі прадстаўнікамі палітычнага крыла якраз і выступаюць Зянон Пазьняк і Сямён Шарэцкі. Мяне, аднак, цікавіць лёс так званых эканамічных эмігрантаў. Пераважна зь імі, зь беларускамі й беларусамі, якія прыехалі ў ЗША, каб застацца там і дасягаць матэрыяльных посьпехаў, я трымаў найшчырэйшыя і найбольшыя рабочыя кантакты і сяброўскую лучнасьць падчас працы ў Нью-Ёрку.

## З фатографаў у будаўнікі

Сябра колішняй арганізацыі "Талака", былы салдат-"аўганец" і былы фатограф Алесь аднойчы ў 1992-м сказаў сабе, што беларускае адраджэньне павінны рабіць багатыя беларусы. Сказаў — і зьехаў у Амэрыку зарабляць грошы. У Менску ў яго засталіся два браты й маці.

За восем гадоў працы на будоўлі Алесь стаў прафэсійнікам, гэта значыць майстрам, спэцыялістам у сваёй справе. Памяняў другую ці трэцюю машыну (аўтамабіль яму патрэбны, каб дабірацца на работу), набыў дарагую тэлеапаратуру, вывучыў ангельскую мову. Жыве ў бэйсмэнце — цокальным паверсе прыватнага дому. Ні разу ня быў у адпачынку. Верыць, што яшчэ крыху — і ён стане на ногі, падымецца ў заробках, купіць кватэру ці дом.

Пра ўсё гэта я чую ў яго ў гасьцёх. Мы сядзім за чаркай добрага каліфарнійскага віна і глядзім новы культавы фільм пра Ірляндзкую Рэспубліканскую Армію. "Майкл Колінз" — гэта пра беларускую будучыню. Так кажа Алесь. І калі ўсё ж нам спатрэбіцца зброя, у яго будуць грошы, каб яе купіць...

**Зарабіць на... старасьць**

Нэля прыехала ў ЗША, каб зарабіць. Наш "родны кут" ня мог ёй забясьпечыць нават кутка ў рабочым інтэрнаце. Зрэшты, Нэля не была рабочай. Яна працавала журналісткай у правінцыйнай газэтцы, выкрывала мясцовых карупцыянэраў ды іншыя сацыяльныя язвы незалежнай РБ, застаючыся безь сям'і, нармальнага жыльля й надзеяў зрабіць кар'еру ў журналістыцы...

Пасьля шасьці гадоў цяжкай працы ў сем'ях нью-ёрскіх жыдоў былая выпускніца журфаку мае разьбітыя нэрвы, аднапакаёўку з сумешчанымі выгодамі і фотаапарат, каб фатаграфаваць сябе на фоне амэрыканскага багацьця. Ёй 42, і яна ўсё цяжэй знаходзіць супольную мову з мужчынамі...

**Шустрая**

Чарнявая, тлуставатая і пустабрэхлівая Сіма ўразіла сваёй надзвычайнай настырнасьцю й кацінай лісьлівасьцю. На штомесячным сходзе нью-ёрскага аддзелу БАЗы яна пасьпявала пацерціся чалавекаў каля дваццаці. І кожнаму нешта шапне, абнадзеіць, паабяцае, запытаецца. Адным словам, Сіма рабіла паперы на палітпрытулак і шукала, хто б ёй мог падпісаць афідэвіт — пацьверджаньне, што на Радзіме яна цярпела перасьлед за апазыцыйную дзейнасьць і цяпер баіцца вяртацца ў Беларусь, бо там, маўляў, яе чакае турма.

Ці падпісаў ёй хто з нашых тую нахабную хлусьню — ня ведаю. А я, каб адрабіцца ад уедлівай дзявулі раз і назаўсёды, назваў ёй цану майго подпісу. Бог сьведка, цану памяркоўную — 500 амэрыканскіх. І што б вы думалі, дарагія мае людзі?! Мая інфармацыя для роздуму ніяк яе не зьбянтэжыла. Больш таго, дзявуля запэўніла мяне ў тэлефонную слухаўку, што запатрабуе абмеркаваньня маіх паводзінаў (sic!) на чарговым сходзе рэгіянальнага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Ніякага абмеркаваньня, што праўда, не было. Але й подпісу зь мяне Сімачка больш не цыганіла.

**Шустрык**

Ён Сіме да пары — гэткі ж чарнявы, шустры й пусты. Спрабуе пісаць у жыдоўскія рускамоўныя газэты — пра жыцьцё беларускай дыяспары. Зь Беларусі зваліў, бо ў чарзе па яйкі не хацеў стаяць. На беларускіх пікетах пхнецца зь бел-чырвона-белым сьцягам у першыя рады — каб на фатаздымку відаць было. Таксама подпісы жабрue.

## Арляняты, арлёнкі, аролікі...

На наша шчасьце, тут, у Беларусі, у межах Бацькаўшчыны, яны ёсьць — Купалавы арляняты, якім Вялікі Паэт даваў "сярпы і косы ў рукі Ды мячы, каваны з сталі", каб "здабытую свабоду Зналі, шанавалі І у цяжкую прыгоду Ўсталі грознай хваляй".

Сапраўды, мы ведаем прозьвішчы сотняў маладых беларусаў — школьнікаў, навучэнцаў прафтэхвучылішчаў і коледжаў, ліцэістаў, студэнтаў ВНУ, якія робяць штодзённую і разам з тым гераічную работу ў імя свабоды Бацькаўшчыны. Без ілжывага патасу й футурыстычных нацяжак можам сьцьвярджаць: на вулічных акцыях беларускія арляняты вырастаюць у гордых і дужых арлоў, якія ня маюць такой звычкі — адлятаць у вырай.

Іншыя арляняты прылятаюць у беларускія гнёзды замежжа. Пра двух шустрых арлёнкаў мы ўжо згадалі. Ёсьць таксама й ціхаходы, якія наперад ня лезуць, але й свайго не ўпускаюць. Хай бы сабе й так было: ідуць маладыя ціха і ўпэўнена да мэты. Хай бы сабе. Але што ж, скажыце, нам думаць пра арлёнка, які перад рэпрадукцыяй партрэту Лява Сапегі робіць вялікія вочы няведаньня? І гэта пасьля сканчэньня Менскага гуманітарнага ліцэю! Зрэшты, можа і сапраўды неабавязкова ведаць пра гістарычнага Лява Іванавіча, каб патрапіць на вучобу ў Пэнсыльванію, летам прыяжджаць у Нью-Ёрк на практыку, жыць у гасьцiннай беларускай Фундацыі імя Крэчэўскага, не перажываць наконт аплаты за месца пад дахам, спакойна ўплятаць ёгурты і штовечар глядзець амэрыканскія мульцікі?

Калі наш былы ліцэіст N, зачараваны Злучанымі Штатамі, праваліў "тэст на Сапегу" (дарэчы, як і былы прэзыдэнт L.), то сёлетні выпускнік былога наргасу нехта Васіль нас, старэйшых векам кватарантаў Фундацыі імя Крэчэўскага, проста абяззброіў сваім няведаньнем самых элементарных актуаліяў сучаснай Беларусі. Юны дземанцей XXI ст. словы "Пазьняк", "ВКЛ", "Марш свабоды", "Наша Ніва" ды іншыя на тэму Беларушчыны ўпершыню пачуў у ЗША. Вось чаму пасьля таго, як на нашае пытаньне, дзе такі ёсьць горад Вільня, менскі залётка адказаў, што ў Польшчы, мы ўчарнелі аблічамі і адправілі Васільку ў вячэрнія нетры Гілсайду па дадатковы галён каліфарнійскага чырвонага.

Разам зь менскім Васількам прыгнязьдзіўся ў Фундацыі і берасьцейскі Сярожка. Тыдні праз два ўцякач Сярожа купіў аўто, пра што мы даведаліся чыста выпадкова. А вось пра што мы не

даведаліся, дык гэта пра тое, хто тыя "надзейныя людзі", тыя менскія зязюлі, якія рэкамэндавалі прыняць на высядку ў беларускае гняздо за акіянам сваіх тутэйшых аролікаў.

### Мастоўскія

Ёсьць на Нёмане горад Масты. Добры горад, стары, беларускі. Меў некалі магдэбурскае права, мае цяпер прэзыдэнцкую "вэртыкаль".

Дык вось мастоўскія — гэта тыя, якім тая "вэртыкаль" да лямпачкі.

Мастоўскія — гэта беларуская мафія ў Нью-Ёрку і ваколіцах. Мафія, якая не забівае, не рабуе, а дапамагае сваім землякам выехаць у ЗША, каб зарабіць. Нехта зь Сям'і вырашае застацца ў ЗША назаўсёды, нехта на даўжэйшы час, а хтосьці зарабіў і ўжо вярнуўся ў Масты, вызваліўшы месца суседу.

Як сапраўдныя беларусы, нават аб'яднаўшыся ў Сям'ю, мастоўскія паводзяць сябе сьціпла. Час-часом прыходзяць на сходы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, бяруць удзел у палітычных акцыях, сьвяткуюць беларускія сьвяты...

І вось яшчэ пра паводзіны беларусаў і астатніх. Пакуль "шустрыя" складалі ілжывыя афідэвіты, інтрыгавалі ды нашэптвалі, а менскай зязюлькі аролікі расшыфроўвалі абрэвіятуру "БАЗа", мастоўскія прыходзілі да нас па Беларускую Кнігу. Пакідаючы ў заклад свае рабочыя даляры, яны забіралі з сабой вершы Багдановіча, Жылкі, эмігрантаў Сяднёва, Салаўя, Крушыны, Арсеньневай... Ня ведаю, ці чыталі мастоўскія хлопцы беларускую паэзію ў Беларусі, але тое, што яны зьвяртаюцца да яе там, на чужыне, сьведчыць пра многае. Пра тое, напрыклад, што мастоўскія — гэта свае: надзейныя, моцныя, працавітыя. Адным словам, беларуская мафія ў ЗША.

### На пераломе

Першая хваля беларускай палітычнай эміграцыі адыходзіць у гісторыю разам з ХХ ст. Адыходзіць з радасьцю, пабачыўшы над незалежнай Беларусяй пераможны бел-чырвона-белы сьцяг. Адыходзіць з болем, стаўшы сьведкай рэваншу антыбеларускіх сіл на Бацькаўшчыне.

Адыходзіць, перадаючы сымбалі і тэстамэнты Беларускай Народнай Рэспублікі новаму пакаленьню беларусаў у чужыне. Хочацца верыць, што беларускія эмігранты 90-х ня толькі захаваюць матэрыяльныя і духоўныя набыткі папярэднікаў ды спыняць бессэнсоўны падзел беларускай эміграцыі на так званых "крывічоў" і "зарубежнікаў", але ўжо ў хуткім часе і Беларускі Дом у Мангетэне пабудуюць, і першы ўласна беларускі касьцёл, і беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху ў мэтраполіі будуць дапамагаць ня толькі пікетамі, але й грашыма, і, нарэшце, зьвернуць увагу на праблему беларускага лобі ў структурах амэрыканскай улады.

Будзем памятаць: там Беларусь, дзе мы, Беларусы.

P.S. За духоўную і матэрыяльную падтрымку Аўтар выказвае самую шчырую падзяку новым беларускім эмігрантам і часовым гасьцям у ЗША: В. Якімовіч, А. Сурмачу, А. Крыштаповічу, І. Якуніну, А. "мастоўскаму", А Калбуну, М. Абраменку, М. Клакоцкаму, В. Дворніку, В. Камінскаму, Ю. Чудзіну-Васілеўскаму, В. Говараву, В. Кузьменку...

********************************************

# Бумэранг

**Алена Арэшка**

Сёньня на нашых вачох у краіне адбываецца вельмі цікавы працэс - вяртаецца пад старымі лёзунгамі тое, што, здавалася, ужо сканала назаўжды. Рэанімаваная камуністычная здань працягвае чапляцца за жывых і спрабуе яшчэ раз усталяваць сваю ўладу, выдаць сябе за нешта іншае, лепшае. Але ёсьць сьведкі яе мінулых справаў - людзкая памяць захавала яе сапраўднае аблічча.

У Менску ў Сьляпянцы жыве незвычайны чалавек - Віктар Скараход. Ён нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Слабада Бягомльскага раёну ў сялянскай сям'і. Скончыў школу перад вайною, быў у партызанах. Пасьля вайны амаль 47 год працаваў настаўнікам - спачатку на Бягомльшчыне, потым, пасьля пераезду ў 1974 г., - у Менску. Усё свае жыцьцё быў і застаецца чалавекам цікаўным - і да таго, што адбываецца сёньня вакол яго, і да гісторыі - блізкай і далёкай гісторыі свайго роднага краю.

**В.С.:** - Напэўна, адчувала заўсёды мая душа, што Беларусь ёсьць краем, які нясе ў сабе скрытую багацейшую энэргію... Усё пачалося для мяне зь зямлі, асабліва з прыроды, дзе я нарадзіўся, зрабіў першыя крокі, дзе я вырас, дзе я голымі сваімі ступнямі адчуваў цеплыню й ласку роднай зямлі. Вось гэта любоў да зямлі й жыцьцё на ёй сфармавалі мяне асабіста як асобу, як чалавека. І быў я да савецкай ўлады прыхільны, прымаў усё на веру, дурнату гэтую. Толькі думаў, што толькі ў нас тут гэткія беспарадкі, а там, усюды, нармальна... Агароджаны жалезным занавесам ад усяго сьвету, я не ўяўляў, якім можа быць свабоднае, сапраўдна свабоднае грамадзтва. Гэткім догмам дурным верыў шчыра, але членам партыі ня быў і не імкнуўся быць. Мяне часта запытвалі, чаму я ня член партыі. А ў нас атрымлівалася так: на бацькоўскі сход запросім бацькоў, прыдуць бацькі-камуністы - і тут жа п'яныя падаюць пад лаўкі. Яны ж, гэтыя камуністы, узначальваюць калгасы й рабуюць на маіх вачох калгасную маёмасьць... Як пачалася перабудова, як Гарбачоў кінуў гэты кліч, я поўнасьцю яго прыняў, бо я ўжо бачыў, што грамадзтва дажылося "да ручкі", і ў яго толькі адзін інтарэс - "хлеба й зрэлішч..."

Некалькі год таму раённая рэдакцыя кнігі "Памяць" па Докшыцкім раёне пачала зьбіраць матэрыялы пра жыхароў раёну, якія былі рэпрэсаваныя ў 30 - 50-я гады. На ейны запыт з КДБ прыйшоў падрыхтаваны органамі сьпіс. Скараходу, якога ведалі ў раёне як выдатнага краязнаўцу, удалося зь ім азнаёміцца. І вось тады быццам нешта "ўдарыла" яго ў сэрца: у гэтым сьпісе не было шмат каго зь ягоных аднавяскоўцаў і блізкіх яму людзей, пра чый пакутны лёс ён ведаў асабіста й дакладна. Выходзіла, што гэтыя людзі жылі, працавалі, мелі дзяцей, спадзяваліся на лепшае - і бязь сьледу зьнікалі. Менавіта тады Віктар Скараход паставіў перад сабою нялёгкую задачу - адшукаць і ўспомніць кожнага.

**В.С.:** - Як я прачытаў гэты сьпіс, дык па сваім сельсавеце знайшоў толькі 10 чалавек у ім. А толькі з маёй вёскі было рэпрэсавана 22 чалавекі - і ніводнага ў гэтым сьпісе няма. На ўсіх жа раней прыходзілі даведкі, што яны рэабілітаваныя. Вось я тады вырашыў сабраць гэтыя зьвесткі. Абышоў усе вёскі, апытваў людзей: што памяць утрымлівала, тое яны мне й паведамілі. Сьпіс атрымаўся на 300 чалавек...

Зьнішчэньне беларускай вёскі пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі цягнулася няспынна. Але, бадай, самыя моцныя рэпрэсіі абрынуліся на яе пад час прымусовай калектывізацыі 30-х гадоў.

**В.І.:** - Сходы па вёсках пачаліся. Спачатку ішлі адныя гаворкі, прадстаўнікі езьдзіць пачалі з раёну ў раён, не даюць спакою, а людзі слухаюць гэта ўсё й не ўспрымаюць - гаворкі гэтыя адсыпаюцца, як гарох ад сьцяны. Гэта чужое ўсё, чужое было для народу, якому зямелька свая была патрэбная. Успамінаю вось, не магу без хваляваньня й зараз успомніць, як я ўпершыню адчуў цяпло роднай зямлі сваімі босенькімі ножкамі. Напэўна, на сваім полі гэта было, або на палетках маёй роднай Слабады: на іх няма мэтру, дзе не ступала мая нага... І мне гэта было бязьмежна дорага, да сьлёз. Таксама гэта было міла тагачаснаму чалавеку, які разумеў, што потым гэта будзе не ягонае, чужое...

Каб прымусіць людзей пайсьці ў калгасы, саветы пачалі зьнішчаць самую працавітую й руплівую частку сялянства, якое, зразумела, было супраць абагульненьня й калектывізацыі. Як кулакоў зь вёскі Слабады ў 1929 г. выслалі ў далёкія краі многіх блізкіх і далёкіх суседзяў Скараходаў, а таксама іхных крэўных - пацярпеў брат бацькі, дзядзька Атрахім, бацькава сястра Ганула.

**В.І.:** - Я памятаю, было сонечнае раньнё, ня помню толькі дакладна, якога дня гэта было: я, малы, падняўся з ложку, працёр вочы, сяджу на прызьбе, свеціць сонейка, нехта з нашых кажа, што ўжо дзядзькавых Атрахімавых пасадзілі на падводы й вывезьлі на супрацьлеглы канец вёскі, а бацьку маймў загадалі везьці родную сястру з роднай хаты ў Барысаў на станцыю. Бачу: ідзе бацька й плача, у яго пуга ў руках. Што яму было ў двары патрэбна, ня ведаю, на мяне ён не глянуў, не зачапіў, хутка павярнуўся й пайшоў.."

Аднавяскоўцы Скарахода, высланыя ў тыя гады, амаль усе не вярнуліся дадому, загінулі недзе ў бясконцых сібірскіх прасторах. А рэпрэсіі працягваліся. У 1937 г. - новая хваля. Цяпер самых "рукатых" - гэтак іх звалі на вёсках - самых працавітых і самастойных, тых, што любілі сваю зямлю й умелі на ёй працаваць, арыштоўвалі й расстрэльвалі як "ворагаў народу" й "польскіх шпіёнаў".

**В.І.:** - У катэгорыю ворагаў народу трапілі многія нашыя людзі. Вось, скажам, сусед з гэтага канца нашае вёскі, Янкоўскі Нічыпар, - ніякі ня вораг, звычайны харошы чалавек, вясковы мужчына, адмысловы: ён і паляўнічым быў, і боты шыў, і лыжку мог выразаць прыгожую. Як і ўсякі звычайны мужчына, гультаём ня быў, кемлівы быў. Прыдумалі яму віну, быццам бы пераводзіў цераз мяжу ў Польшчу сына суседняга кулака...

Страты, маральныя й фізычныя, якія зазнала тады беларуская вёска, мабыць, адны з самых адчувальных за ўсю яе гісторыю. Родная вёска Скараходаў Слабада, якая налічвала перад вайною 120 чалавек, цяпер - кажа спадар Віктар - нябожчыца, і ў ёй ніхто не жыве. А ў суседніх вёсках калі й ёсьць мужыкі, дык п'юць, а да зямлі ставяцца абыякава.

**В.І.:** - Памятаю, восень: сеяць бацька выяжджае, запрагае каня ў калёсы, кладзе барану, два мяхі з насеньнем і мяне бярэ з сабою. Дык бяз трэпету ў душы не магу прыпамінаць, як усё гэта было. Прыедзем на ніву, бацька з калёс каня распрагае, кладзе мяхі, у сяўню набірае зерне, сам з гэтаю сяўнёю прыходзіць на ніву, становіцца на калені, здымае шапку, хрысьціцца й кажа: "Радзі, Божа!". Тады толькі падымаецца й пачынае сеяць... Што значыць для селяніна свая зямля, як казаў Якуб Колас: "Свая зямля - усяму аснова". Як яны любілі яе, і ніва была так добра апрацаваная: нідзе ні каменьчыка, усе зьвезеныя ў крушню. А як пачнуцца палявыя работы, скажам, жніво, - зьвіняць песьні. А як прыйшлі калагасы, дык зьнiклі тыя песьні...

Спадар Віктар Скараход, чалавек вялікае душы й чыстага сумленьня, ня можа супакоіцца й пагадзіцца з гэтым становішчам. Некалькі таўшчэзных тамоў можна скласьці з краязнаўчых матэрыялаў, успамінаў, якія назьбіраў ён пра свой скалечаны й гэтак дарагі й мілы яму родны кут. Справу з рэпрэсаванымі ён таксама не пакідае й працягвае зьбіраць зьвесткі пра сваіх землякоў; А што тычыцца КДБ й іхных сьпісаў, дык на запыт Скарахода яны адказалі, што не даюць падрабязных сьпісаў рэпрэсаваных прыватнай асобе, але толькі арганізацыям. І каб на паперах была пры гэтым пячатка, а інтарэс да гэтае справы важка абгрунтаваны. Толькі вось ніводная зь мясцовых раённых арганізацыяў - як ні ўпрошваў Скараход -, на гэткі запыт яшчэ не адважылася...

# Гаворыць Алесь Баркскі...

Аматары паэзіі ведаюць вытанчанага паэта Алеся Барскага. Навукоўцы-філёлягі цэняць наробак прафэсара, загадчыка беларусазнаўчай катэдры Варшаўскага ўнівэрсытэту Аляксандра Баршчэўскага. Барскі-Баршчэўскі шмат гадоў ачольваў Беларускае грамадзка-культурнае таварыства ў Польшчы, ініцыяваў стварэньне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

А старэйшыя пісьменнікі прыгадваюць, як за часамі брэжнеўскага застою Алесь Барскі прывозіў у Менск забароненую за саветамі літаратуру — выдадзеныя на Захадзе кнігі Купалы, Гаруна, Мандэльштама. Гэткі своеасаблівы караткевічаў кнiганоша ў модных фірмовых джынсах...

(Міхась Скобла:) "Дачуўся я ад беластоцкіх сяброў, што вы, спадар Алесь, набылі ў сваіх родных Бандарах на Беласточчыне ладны кавалак зямлі. Ці не азначае гэта, што вы, барані Божа, надумалі пакінуць навуку зь літаратурай ды перакваліфікавацца ў фэрмера?"



(Алесь Барскі:) "Я не набыў аніякай зямлі, а толькі пераняў гаспадарку бацькі — 16 гектараў, бо калі б гэтага не зрабіў, то наша зямля трапіла б у чужыя рукі. І новы ўладальнік зямлі мог бы мяне выгнаць з поля ці з лугу, праз якія я хадзіў ад самага дзяцінства на рэчку. І таму, каб ніхто ніколі не сказаў мне — чаго ходзіш па маім, я пераняў гэтую гаспадарку.

Але гэта не пагражае маім навуковым і літаратурным зацікаўленьням з тае простае прычыны, што апрацоўваць гэтае зямлі я ўжо ня буду. Проста мне хацелася ратаваць зямлю, якая ад вякоў належала да майго роду. Гэта — фундамэнт маёй духоўнай і маральнай структуры: у пераважнай большасьці ўсё тое, што пішу — і літаратуразнаўчае, і мастацкае — яно так ці інакш зьвязанае з маёй зямлёй".

(Скобла:) "Каб не гістарычная выпадковасьць у 1945 г., калі Беласточчына апынулася ў Польшчы, вы мелі б шчасьце жыць у Беларусі савецкай. Але склалася так, што вы вучыліся ў Лодзі, жывяце ў Варшаве. Ці не шкадуеце пра тое, што сёньня вы — грамадзянін Польскай, а не Беларускай дзяржавы?"

(Барскі:) "Сёньня ні ў якім разе пра гэта не шкадую, а нават і ўдзячны Сталіну, што ўрэшце скарэктаваў беларуска-польскую мяжу, перасунуў яе ад Беластоку на сорак кілямэтраў на ўсход. У выніку я і апынуўся ў Польшчы.

Гадоў пятнаццаць таму выступіў па тэлебачаньні першы прэм'ер Польшчы Камароўскі. І ён расказаў пра тое, чаго я ніколі ня ведаў. Як вядома, беларуска-польская мяжа была праведзеная па лініі Керзона, і мяжа тая мела этнічны характар. Гэта значыць, што ўсе этнічныя землі беларускія ўсходняй Беласточчыны мелі належаць да Беларусі. І вось прэм'ер расказаў, як падчас свайго першага візыту ў Маскву на прыёме ў Сталіна ён зьвярнуўся да кіраўніка СССР з просьбай, каб вярнулі назад, да Польшчы, Белавескую пушчу, таму што ўжо да вайны польская Акадэмія навук мела сваю філію ў Белавежы, вяла навуковыя дасьледаваньні, затраціла сродкі. А таму польскі бок вельмі зацікаўлены, каб палякі атрымалі доступ да пушчы, якая апынулася за мяжой. І Сталін адказаў: "Ну, что ж, посоветуемся с бэлорусскімі товарішчамі". Назаўтра Сталін паведаміў: "Бэлорусскіе товарішчі согласіліcь". І правялі новую мяжу — ад Сямятычаў аж да Саколкі, урэзаліся ў беларускую тэрыторыю.

Такім чынам мая родная вёска Бандары ды яшчэ 250 000 этнічных беларусаў апынуліся ў Польшчы. І сёньня пра гэта ніхто зь іх не шкадуе. Мы ўсё ж там жывем значна лепш, чым вы тут. Падам прыклад — мая сястра, якая мае 78 гадоў, сялянка, атрымлівае 130$ пэнсіі, прытым за хату ня плаціць, зямлі мае — колькі хоча. Таму і я ніякіх прэтэнзіяў да гісторыі ня маю. Тым больш у Польшчы ніхто не забараняе мне быць беларусам".

(Скобла:) "Тым больш дзіўнымі выглядаюць словы спадара Сычэўскага, аднаго з кіраўнікоў беларускага руху на Беласточчыне, што ён падтрымлівае палітыку Лукашэнкі — казаў па беларускім тэлебачаньні падчас побыту ў Менску. Як вы лічыце, спадар Алесь, чым гэта магло быць выклікана?"

(Барскі:) "Зразумела, што кожны мае права выказваць свае погляды, як і права належаць да тае партыі ці ідэалёгіі, да якое яму хочацца.

Мяне вельмі зьдзівіла вось што. Два гады таму польскі Сойм выступіў з пасланьнем да беларускага народу, вельмі, дарэчы, памяркоўным, у тым пасланьні не рабіліся спробы накінуць беларусам чужую волю. Гаварылася там толькі пра адно — пра абарону дэмакратыі і незалежнасьці ў Беларусі. Пад тым пасланьнем падпісаліся ўсе польскія партыі, прадстаўленыя ў Сойме, улучна з сацыял-дэмакратамі, да якіх належыць і Сычэўскі. Супраць прагаласавалі толькі два дэпутаты, два беларусы, якія ёсьць у Сойме — Сычэўскі і Плева. Яны галасавалі супраць незалежнасьці і дэмакратыі ў Беларусі. Я гэтага не разумею!

На маю думку, незалежна ад таго, дзе беларусы жывуць і якой яны трымаюцца палітычнай арыентацыі, сувэрэннасьць і дэмакратыю для свайго народу яны павінны ставіць вышэй за ўсё".

(Скобла:) "На вашай вечарыне, што адбылася днямі ў менскім Доме літаратара, Ніл Гілевіч прызнаўся, што ўпершыню пачуў пра немінучы распад савецкай імпэрыі з вуснаў Алеся Барскага яшчэ 20 гадоў таму.

На чым грунтаваўся ваш тагачасны прагноз і ці не ацэньваеце вы апошнія падзеі ў Расеі як спробу вяртаньня ў савецкія часы? Выступ Пуціна па расейскім тэлебачаньні напярэдадні зацьверджаньня сталінскага гімну Дзярждумай Расеі быў нібы сьпісаны з Лукашэнкі. Зноў жа – візіты абодвух на Кубу..."

(Барскі:) "Адносна распаду імпэрыі ніякага прароцтва не было. Гэта была проста гістарычная аналёгія. Калі ўпала імпэрыя Чынгісхана, Пэрсідзкая імпэрыя, імпэрыя Аляксандра Вялікага, упала імпэрыя Гітлера, то, зразумела, што і савецкая імпэрыя павінна была прыйсьці да канца.
Імпэрыя — гэта канструкцыя штучная, яна імкнецца зьяднаць у адно розныя народы, розныя мовы, розныя цывілізацыі. Сёньняшняе імкненьне кіраўніцтва Беларусі зьяднацца з Расеяй мяне палохае. Бо яно ёсьць формай адтварэньня Савецкага Саюзу. Хоць мне вельмі спадабалася выказваньне Пуціна, штопраўда, сказанае перад выбарамі: "Тот, кто не жалеет о распаде Советского Союза, не имеет сердца, но тот, кто стремиться его возродить, не имеет головы".

Ня ведаю, наколькі шчыра ён выказаўся. Бо тое, што сёньня дзеецца паміж Беларусяй і Расеяй, сьведчыць якраз пра адваротнае — пра імкненьне аднавіць "малы савецкі саюз".

Мы ўсё цешымся, што нас любяць і паважаюць у сьвеце за нашу добразычлівасьць і гасьціннасьць. Гэта ўсё легенды. У Польшчы было нядаўна праведзена апытаньне — каго б палякі хацелі б мець за суседзяў і каго б не хацелі. Найперш не хацелі б мець за суседа цыгана, пасьля румына, пасьля ўсіх арабаў, на пятым месцы ў палякаў стаяць украінцы, расейцы, беларусы і габрэі.

А каго б палякі хацелі б мець за суседа? Амэрыканца, француза, ангельца, швэда і немца. Тут мы назіраем зьмену вялікай арыентацыі. Бо польскае грамадзтва традыцыйна заўсёды было ў аднолькавай ступені антыгабрэйскае, антынямецкае і "антыкацапскае". Тут варта патлумачыць, што для большасьці палякаў расеец, беларус і ўкраінец — гэта "кацапы". А "кацап" — гэта старапольскі панятак, азначае актора, камэдыянта, які злоўжывае голасам, мімікай і жэстамі рук. Так што бачыце, якія адносіны..."

(Скобла:) "Стаўленьне афіцыйнай Варшавы да беларускага рэжыму вядомае. Беларускія дэмакратычныя сілы мусяць быць удзячныя Польшчы за пэўную падтрымку. Польшча дала прытулак палітычнаму выгнанцу Зянону Пазьняку, з тэрыторыі Польшчы вяшчае Радыё Рацыя...

Але назіраецца і пэўная насьцярога, а неўзабаве нас чакае ініцыяванае польскім бокам увядзеньне візаў. А як вы ацэньваеце пазыцыю Варшавы ў адносінах зь Беларусяй? Ці дастаткова яна рашучая й выніковая?"

(Барскі:) "Я марыў пра тое, што пасьля распаду Савецкага Саюзу Беларусь далучыцца да нэўтральных краінаў, такіх як Фінляндыя, Швэцыя, Швэйцарыя, Аўстрыя — разам зь іншымі савецкімі рэспублікамі, што атрымалі статус незалежных дзяржаваў. У гэты блёк маглі б увайсьці Літва, Латвія, Эстонія, Беларусь, Украіна, Польшча, Баўгарыя, народы Югаславіі, Славаччына, Чэхія, Румынія.

Мне здаецца, што гэта быў бы магутны хаўрус, зь якім усе лічыліся б, і ніхто гэтага хаўрусу не крануў бы. І ня трэба было б выкідаць мільярды даляраў на ўзбраеньне, ня трэба было б уступаць у ваенныя блёкі і гэтак далей. Польшча, як вядома, уступіла ў NATO, але я гэта балюча перажываю, таму што ўступленьне Польшчы ў NATO, на маю думку, падштурхнула Беларусь у абдымкі Расеі".

(Скобла:) "Спадар Алесь, я ведаю, што ў вашай варшаўскай кватэры сабраная цэлая калекцыя гадзіньнікаў, ды амаль усе — спраўныя. А які час яны паказваюць — варшаўскі ці менскі?"

(Барскі:) "Выключна варшаўскі. Нельга жыць у адной краіне са сваім часам, а гадзіньнік перавесьці на час іншай краіны — Беларусі, Расеі ці Японіі. Чалавек спаралізаваў бы сабе жыцьцё ўвогуле.
Я маю большы камплект самавараў, самавар для мяне — сымбаль аб'яднаньня ў адно цэлае стыхіяў, якія павінны быць аб'яднаныя — агню і вады. Яны для мяне ўвасабляюць пэўную прытульнасьць, пэўную атмасфэру.

Я б тут яшчэ хацеў бы дадаць вось што. Калі параўнаць падарожжа паляка, які прыяжджае зь Беларусі ў Польшчу, і падарожжа беларуса, які прыяжджае з Польшчы ў Беларусь, то гэта вельмі адрозныя рэчы. Уражаньні абсалютна супрацьстаўныя. Падарожжа паляка зь Беларусі ў Польшчу можна параўнаць з падарожжам чалавека, які дападае да жыватворнай крыніцы ў вялікую сьпёку і п'е зь яе, чэрпае чыстую крынічную ваду.

А падарожжа беларуса, які прыяжджае з Польшчы, і не толькі з Польшчы, але і з цэлага сьвету ў Беларусь, можна таксама параўнаць з падарожжам чалавека, які ў вялікую сьпёку дападае да крыніцы, а крыніца — сухая, альбо напоўненая такой вадкасьцю, якое піць нельга.

Адразу на мяжы, калі памежнік можа цябе абразіць і пасадзіць на месца толькі за тое, што ты да яго азываешся па-беларуску, то чаго ўжо чакаць у самой краіне...Калі чалавек падарожнічае па сьвеце і трапляе да самага прымітыўнага племені, якое налічвае ўсяго 200 чалавек, і азавецца да іх хоць колькіма словамі на іхнай мове, то ж гэтыя людзі цешацца, ганарацца, што вось прыехаў чалавек здалёк і карыстаецца іхнай мовай. У Беларусі, на жаль, інакш..."

(Скобла:) "А на адвітаньне я ўсё ж папрашу вас у нашай празаічнай гутарцы паставіць паэтычную кропку".

(Барскі:) "Я прачытаю верш, якім заканчваецца мой беластоцкі зборнік "Блізкасьць далёкага", які для мяне істотны і які налічвае сто вершаў.

Мне сьніцца малінавы звон,
Валошкавасьць зорак высокіх.
Мой Край — гэта ява і сон,
Ён блізкі мне так, як далёкі.
У сэрцы я кодэкс нашу,
Айчыны мне мала і мала.
Я сёньня памерці магу,
Каб заўтра яна існавала".

**Радыё "Свабода", Міхась Скобла, Менск**

# У НОВЫМ ГОДЗЕ НА БЕЛАРУСЬ ХЛЫНЕ НЕЛЕГАЛЬНАЯ МІГРАЦЫЯ

*У 2001 годзе варта чакаць значнага павелічэньня патоку нелегальных мігрантаў праз Беларусь. Пра гэта 2 студзеня заявіў БелаПАН намесьнік старшыні Дзяржаўнага камітэту пагранічных войскаў рэспублікі генерал-маёр Мікалай Кохан. Паводле ягоных слоў, такі прагноз абумоўлены ўвядзеньнем у будучым годзе Польшчай візавага рэжыму з азыяцкімі дзяржавамі і з краінамі СНД, у тым ліку з Беларусьсю. Але, калі з Беларусьсю Польшча ўводзіць візавы рэжым у сярэдзіне года, то з Манголіяй, з некаторымі дзяржавамі Садружнасьці - ужо з 1 студзеня*

У самой рэспубліцы, паводле ацэнак праваахоўных органаў, зараз знаходзяцца 120-150 тысячаў нелегальных мігрантаў, праінфармаваў ён. Апрача таго, у прыгранічных да Беларусі абласьцях Расеі і Украіны, паводле наяўных звестак, знаходзяцца адпаведна прыкладна 1,5 мільёны і 600 тысячаў "нелегалаў".
Намесьнік старшыні Дзяржкамітэта нагадаў, што Беларусь зьяўляецца транзітнай дзяржавай, праз яе праходзяць асноўныя эўрапейскія калідоры: другі (Парыж - Берлін - Варшава - Мінск - Масква - Ніжні Ноўгарад) і адгалінаваньне дзевятага (Кіеў - Мінск - Вільня - Каўнас - Клайпеда – Калінінград). Таму новая сытуацыя, зьвязаная з працэдурнымі, тэхнічнымі і фінансавымі пытаньнямі, створыць значную напружанасьць для рэспублікі, лічыць М. Кохан.

# Беларусы павінны падтрымліваць адзін аднаго

**Мінула XX стагодзьдзе, скончылася 2-е тысячагодзьдзе і пачалося трэцяе. І мінула яно, І пачалося неяк незаўважна, без належнай увагі людзей, без падсумоўкі й разважаньня, без пакаяньняў і без надзеяў. Як быццам усе занятыя сваімі клопатамі, больш важнымі, чым роздум над вечнасьцю і сэнсам гісторыі.**

У навагодні пераход ста-годзьдзяў, гледзячы эўрапэйскі тэлевізійны эфір, назіраючы калейдаскоп больш паўсотні нацыянальных праграмаў, нельга пазбавіцца ад уражаньня, што бачыш адну вялікую забаўляльную праграму шумнай духоўнай пустэчы, робленай весялосьці і агрэсіўнай бессаромнасьці. Моляцца ў Ватыкане, а вакол – мітусіцца Вальпургіева ноч Эўропы.

Гэта ў эфіры. І гэта адбітак часу, адлюстраваньне ўзроўню тых людзей, тых пластоў, што ўсплылі на паверхню культуры.

Чаму гэтак адбываецца - варта задумацца разам. Чалавек жывы ня можа ня думаць пра сэнс існаваньня. Але цяпер, на пераломе стагодзьдзяў, трэба азірнуцца ў глыбіню, каб убачыць, што было.

XX стагодзьдзе было стагодзьдзем тэхнічнага разьвіцьця. Кардынальна зьмянілася хуткасьць і ўзровень камунікацыяў між людзьмі й адпаведна - ўяўленьне аб прасторы. Чалавек, сьведама ці нясьведама, стаў адчуваць сябе істотай не ў бясконцым нязьведаным сьвеце, як раней, а жыхаром на круглай зямлі ў замкнутай прасторы. Разьвіцьцё хуткасьці камунікацыяў пашырыла гарызонты, але абмежавала сьвет. Хуткасьць не дала эканоміі ў часе, але паскорыла рытм. Людзі сталі больш ведаць пра сьвет, але ці сталі яны лепшымі?

У сфэры грамадзскіх дачыненьняў XX стагодзьдзе запомнілася ў гісторыі як час крывавых сусветных войнаў, масавага зьнішчэньня людзей, таталітарных ідэалёгіяў І асэнсаванай, знарочыстай, фантастычнай хлусьні.

Для нас, беларусаў, гэтыя сто гадоў былі драматычным выпрабаваньнем, поўным сьмерцяў і пакутаў. Тым ня менш, мінулае стагодзьдзе сталася для нас больш выніковым, чым XIX, калі ўсе нашыя паўстаньні й войны з Расеяй не далі выніку.

У XX стагодзьдзі была сьцьверджана Беларуская Нацыянальная Ідэя, адроджана Беларуская Дзяржава і абвешчаная яе Незалежнасьць.

Сэнс гістарычнага існаваньня кожнага народу - у стварэньні нацыянальнай дзяржавы й разьвіцьці нацыянальнай культуры. Вось чаму для беларусаў найважнейшымі былі падзеі пачатку і канца XX стагодзьдзя. А менавіта: 1918 год, калі была створана і абвешчаная незалежнай Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), і 1991 год, калі была зьліквідаваная маскоўская ўлада КПСС і адноўленая незалежнасьць Беларусі.

Гэтыя падзеі ёсьць для нас найважнейшым вынікам XX стагодзьдзя, якога ўдалося дасягнуць велізарнымі высілкамі, ахвярнасьцю, працай і ахвярамі прадстаўнікоў Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня.

Азіраючыся ўсьлед стагодзьдзю, падумаем: чаго нам, беларусам, не хапіла, каб давесьці ўсё да канца? Шмат чаго не ставала, але найперш - не хапіла нам нацыянальнай салідарнасьці.

Беларусы, асабліва перад абліччам чужых нашаму народу сілаў, павінны падтрымліваць адзін аднаго. Беларус беларусу мусіць спрыяць і шанаваць усё беларускае. Гэта абавязковая ўмова беларускай свабоды. Інакш нават геніяльныя справы вялікіх беларусаў будуць змарнаваныя, стануць не чыньнікам перамогі, а толькі чарговай ахвярай на алтар нацыянальнага вызваленьня.

Вядома, што нельга здабыць свабоду без ахвяраў. Але свабода не дасягаецца толькі ахвярамі.

Дзень у дзень крочыць ужо па нашай зямлі XXI стагодзьдзе. Мы перайшлі ў яго з усімі нашымі турботамі, трывогамі й хваляваньнямі за наш лёс. Нашым людзям існаваць цяпер так цяжка, гэтак бедна і непрытульна, што беларусы ня могуць не задумвацца: што чакае іх у будучыні. Шмат хто па звычцы спадзяецца, што нешта здарыцца, што нехта дапаможа, што неяк жа ж будзе. Але гэта памылковыя ўяўленьні. Бо ўсё залежыць не ад некага, а толькі ад нас, беларусаў, і толькі мы можам самыя сабе дапамагчы, і толькі так будзе, як мы зробім.

Самае вялікае выпрабаваньне, якое ўжо нясе нам XXI стагодзьдзе, - і ня толькі нам, але і ўсёй Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе - гэта разбурэньне маралі й маральны рэгрэс. Д'ябальская атака брыдоты й паскудзтва ідзе на Беларусь з двух бакоў: з кагэбоўскай Расеі й зь лібэральнай Эўропы.

Гэта комплексная атака, але калі вылучыць галоўнае, то самай страшнай заганай, што ідзе з Усходу, ёсьць алкагалізм, п'янства, стымуляванае ў нацыянальным маштабе.

На Беларусі п'янства рэзка пашырылася за апошнія 5-6 гадоў. Напрыканцы XX стагодзьдзя на Беларусі, амаль у паўтары разы перавышаны дапушчальны парог спажываньня алкаголю на кожнага жыхара краіны, пасьля чаго пачынаецца незваротны працэс выраджэньня этнасу.

Для параўнаньня: у Беларусі спажываецца больш як 11 літраў алкаголю ў год на аднаго жыхара. У Расеі - 9 літраў, на Ўкраіне - 4,5 літра. Навуковая й міжнародна прынятая норма алкагольнага парогу, пасьля якога пачынаецца дэградацыя этнічнай супольнасьці, складае 8 літраў.

Да сярэдзіны 90-х гадоў XX стагодзьдзя абсалютным чэмпіёнам па алкагольным спойваньні й выраджэньні была Расея. Тое, што здарылася зь Беларусьсю напрыканцы XX стагодзьдзя й набірае моцы цяпер - гэта ёсьць этнічная й народная катастрофа. Патрэбныя вельмі хуткія, радыкальныя й эфэктыўныя захады, разьлічаныя на доўгі час (адно-два пакаленьні), каб гэты працэс затармазіць.

Самай небясьпечнай заганай, што шчэміцца да нас з Эўропы, - гэта ўзаконьваньне чалавечай брыдоты на падставе фальшыва ўспрынятай лібэральнай канцэпцыі правоў чалавека. Ня можа быць свабоды граху. Чалавек ня мае права на разбэшчанасьць, на самазьнішчэньне (хоць і здольны на гэта). Грамадзтва не павінна такое цярпець.

Дзе ж компас, дзе ж той справядлівы шлях, дзе зорка, якая павінна сьвяціць беларусам у XXI стагодзьдзі над дарогай, што вядзе ў Беларускі Храм?

Я мяркую, што Беларусь павінна вярнуцца да Хрысьціянства... Беларуская ідэя, што грунтуецца на традыцыі беларускага хрысьціянства - гэта шлях для нас найбольш унівэрсальны і правільны, бо толькі такая сьветлая й магутная ідэя магла б дапамагчы беларусам вылезьці з глыбокай ямы, у якую ўпіхнулі наш народ ворагі Беларушчыны.

У нашай гісторыі ёсьць шмат дзівоснага і містычнага. Дзівосным было нашае паўстаньне з попелу напрыканцы 80-х гадоў. Дзівосным было вяртаньне незалежнасьці ў 1991 годзе вельмі малымі адраджэнцкімі сіламі ў Вярхоўным Савеце. Дзіўнымі падаюцца цяпер рабскія пакуты народа, структура інтэлектуальных магчымасьцяў якога ў чатыры разы перавышае сярэднеэўрапэйскі ўзровень. Дзіўным здаецца паніжэньне нашчадкаў тых, хто ніколі не прыгнятаў іншыя народы і нават палонным іншаверцам даваў волю, зямлю й шляхецтва. Дзіўным ёсьць зьневажаньне народа, які трымае ў руках незвычайны сымбаль - сьцяг Ісуса Хрыста... Мажліва, Беларусь і яе народ чакае незвычайная будучыня й сьветлая доля. Магчыма, беларускім празорцам у XXI стагодзьдзі адкрыецца яе сэнс. Сёньня ж ужо відавочна і ўсім зразумела: ніколі беларускія рыцары Сьцяга ня выпусьцяць з рук наш сьвяты Бел-Чырвона-Белы, наш адвечны беларускі сымбаль - Сьцяг Беларускай Нацыі.

Зянон Пазьняк (Польшча).

# Кнігі-цагліны вечнасьці нацыі

**Віктар Мухін**

Першая кніга "Гісторыі Беларусі" ў 6 тамох выйшла надоечы ў менскім выдавецтве "Экапэрспэктыва". Выданьне калектыўнае працы акадэмічных гісторыкаў ажыцьцяўляецца ў краіне ўпершыню за апошнюю чвэртку веку.

Новае выданьне, незважаючы на ягоную акадэмічнасьць, выйшла ў прыватным выдавецтве. Пры тым, што бальшыня аўтараў - акадэмікі, прафэсары й кандыдаты гістарычных навук. Гэта Валянціна Вяргей, Ірына Ганецкая, Марат Клімаў, Эдвард Зайкоўскі, Аляксандар Іоў, Лявон Калядзінскі, Мікола Крывальцэвіч, Сяргей Тарасаў ды іншыя.

Першы том абыймае пэрыяд гісторыі краю ад сівое даўніны да сярэдзіны XIII ст. Ягоныя рэдактары - Міхась Чарняўскі й Георгі Штыхаў. Галоўным рэдактарам усяго выданьня - Міхась Касьцюк, колішні дырэктар акадэмічнага Інстытуту гісторыі.

Зь першага да чацьвертага тому працы разглядаецца гісторыя Беларусі ад зьяўленьня першага чалавека на нашых абшарах да скону Расейскай Імпэрыі. Пяты й шосты тамы прысьвечаны новай гісторыі Беларусі, што пачынаецца ад рэвалюцыйных падзей 1917 г.

У "Перадмове" да шасьцітомніка гаворыцца, што праца напісана на падставе нацыянальна-дзяржаўнае канцэпцыі гісторыі Беларусі. Аўтары й рэдактары разглядаюць беларускі этнас як самабытны суб'ект гісторыі. Беларускі этнас выступае як асноўны, задзіночвальны элемэнт усяго беларускага народу.

Пра тое, чым адметнае новае гістарычнае дасьледаваньне, гутарым з адным з рэдактараў першага тому Міхасём Чарняўскім.

**В.М.:** - Чым прынцыпова розьніцца гэтае выданьне ад нядаўна выпушчанага другога выданьня кнігі Аўгена Новіка й Генадзя Марцуля?

**М.Ч.:** - Гэтае, шасьцітомнае, пісалася ў незалежнай Беларусі. У ім гісторыя пададзена з пункту погляду беларускае дзяржаўнасьці - мы глядзім на сябе не праз прызму Масквы ці Варшавы, а праз Менск. А кніжка Новіка й кампаніі - гэта крок назад, да часоў Абэцэдарскага... Наш шасьцітомнік - гэта сёньняшні дзень, а Новік ды іншыя - гэта дзень заўчорашні.

Пры канцы першага тому "Гісторыі Беларусі" зьмешчаны вялікі разьдзел, прысьвечаны ўтварэньню беларускае нацыі. Другая кніга асьвятляе пэрыяд ад узьнікненьня Вялікага Княства Літоўскага. Гэта міжволі кіруе на думку пра сувязь між вытокамі беларускае нацыі й новае эўрапейскае дзяржавы...

**М.Ч.:** - У межах Вялікага Княства Літоўскага ўсе беларускія землі былі аб'яднаны ў адной дзяржаве. Дагэтуль яны ўсё-такі былі разьяднаныя. Частка была ў складзе Полацкае зямлі, частка - у Смаленскай зямлі, частка - у Тураўскай і так далей. У Вялікім Княстве ўпершыню ўвесь беларускі этнас, уся беларуская этнічная тэрыторыя была аб'яднана.

Аўтары 6-томнае "Гісторыі Беларусі" выказваюць спадзеў, што іхная праца паспрыяе самаўсьведамленьню беларусаў паўнавартаснай нацыяй. Наперадзе -- выхад яшчэ пяці тамоў. Зычым беларускім гісторыкам спору ў іхнай працы.



## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

Мы атрымалі наступныя выданьні:

1. **Факты абвінавачваюць.** Матэрыялы беларускай дэлегацыі на Міжнародным кангрэсе "Ацэнка злачынстваў камунізму". Вільня, 2000, 96 бач.

2. **Кантакты і дыялогі.** Інфармацыйна-аналітычны і культуралагічны бюлетэнь. №11-12, 2000, Менск, 65 бач.

3. **Зеленая Амэрыка.** Леонтий Раковский, Менск, 2000, 54 бач.

4. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 12. 2000, Беласток, 40 бач.

Яго Сьвяцейшаству
Патрыярху Маскоўскаму
і ўсяе Русі Аляксію II

Ваша Сьвяцейшаства!

Я ўжо аднойчы пісаў Вам ліст наконт будаўніцтва храма ў адным з забруджаных населеных пунктаў Чарнобыльскай зоны — горадзе Брагіне... Аднак адказу я не атрымаў. Таму цяпер вырашыў зьвярнуцца да Вас з адкрытым лістом.

А напісаць гэты ліст падштурхнула тое, што я не магу абыякава ўспрыняць Ваш крок, зьвязаны з прысуджэньнем прэміі міжнароднага Фонду "Адзінства праваслаўных народаў" Аляксандру Лукашэнку. Па-першае, тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў яго, згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, закончыўся 20 ліпеня 1999 г. і супраць створанага ім рэжыму ўзбуджана крымінальная справа за захоп улады неканстытуцыйнымі сродкамі і вядзецца сьледзтва.

Па-другое, і гэта ў даным выпадку ня менш важна, Лукашэнка разьяснаў народ Беларусі ўсё па тым бальшавіцкім прынцыпе: хто не з намі, той супраць нас...

Прыйшоўшы на хвалі папулізму да ўлады, Лукашэнка бачыць сваю ролю прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь такой, якую выконваў Адольф Гітлер...

У Беларусі сёньня ўся ўлада сканцэнтравана ў адных руках. Таму ў многіх міжнародных арганізацыях і палітычных дзеячоў ёсьць падставы лічыць, што пасьля падзеньня ў Югаславіі рэжыму Мілошавіча, Беларусь застаецца апошнім аплотам дыктарскага рэжыму ў Эўропе. Больш таго, створаны ў Беларусі дыктатарскі рэжым зьяўляецца ў адносінах да самых беларусаў па сутнасьці акупацыйным, бо ўсе ключавыя пасады ў ім займаюць стаўленікі Масквы... Многія з актыўных дзеячоў апазыцыі дыктатарскаму рэжыму проста бясьсьледна зьнікаюць, або па сфабрыкаваных справах заключаныя ў турмы, як гэта рабілася ў фашысцкай Германіі і ў час сталінскага рэжыму ў Савецкім Саюзе. Выкарыстоўваючы сродкі масавай інфармацыі, дыктатар неаднаразова аддаваў каманду "надзець наручнікі без суду і сьледзтва" на таго ці іншага няўгоднага яму чалавека.

За гады існаваньня дыктатарскага рэжыму народ Беларусі даведзены да жабрацтва, затое пад яго апякунствам карупцыя ў Беларусі дасягнула нябачных да гэтага часу памераў...

Створаны ў Беларусі і падтрымліваны шавіністычнымі коламі Расеі дыктатарскі рэжым, як і ў свой час яго папярэднікі — фашысцкі і бальшавіцкі, імкнецца ўвесь час умацоўвацца ўнутры краіны і пашырыць сфэру свайго ўплыву. У гэтым і заключаецца сапраўдная прычына памкненьняў Лукашэнкі стварыць нейкі нябачны да гэтага часу славянскі саюз, у якім ён хоча выконваць тую ролю, якую выконваў у Трэйцім Райху Гітлер, ці ў так званым сацыялістычным лягеры Сталін, партрэты якога на мітынгах і дэманстрацыях выносяцца побач з партрэтамі Лукашэнкі.

Гаворачы аб адзінстве праваслаўных славян, неабходна памятаць, што вельмі значная частка беларусаў зьяўляюцца каталікамі, пратэстантамі ці навогул нехрысьціянскай рэлігіі. Больш таго, у Беларусі з даўніх часоў жывуць людзі, якія адносяцца да неславянскіх нацыяў. Таму адной з рысаў нацыянальнага мэнталітэту беларусаў зьяўляецца іх талерантнасьць.

Што тычыцца самога А. Лукашэнкі, дык ён публічна заяўляў, што лічыць сябе "праваслаўным атэістам". Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што Праваслаўная царква яму патрэбна толькі для дасягненьня ўсё тых-жа ўладалюбівых памкненьняў. Таму гэткую ўвагу высокіх герархаў Рускай Праваслаўнай царквы да гэтага хворага на ўладалюбства чалавека нельга лічыць інакш, як падтрымку расейскай шавіністычнай палітыкі ў адносінах да Беларусі.

З павагай, Сямён Шарэцкі,
Старшыня Вярхоўнага Савету
25. I. 2001 г. Рэспублікі Беларусь.

# Ёсьць дыягназ

Юрась Карманаў – Радыё "Рацыя"

Газэта "Наша Свабода" зьмясьціла разгорнуты мэдычны аналіз лекара, які выстаўляе псыхіятрычны дыягназ беларускаму лідару. Рэакцыя з боку Аляксандра Лукашэнкі на гэтую скандальную публікацыю, пэўна, зьявіцца пазьней. Аднак ужо зараз рэдактар выданьня Павал Жук заявіў Рацыі, што гатовы да судовых разьбіральніцтваў.

Артыкул называецца "Заключэньне лекара" й зьмешчаны на 8 палосах як асобны ўкладыш у газэту "Наша Свабода". Псыхіятар Зьміцер Шчыгельскі, які, паводле інфармацыі Рацыі, пакінуў ужо межы Беларусі, выстаўляе беларускаму лідэру псыхіятрычны дыягназ: "памяркоўна выражаная мазаічная псыхапатыя, зь перавагаю рысаў паранаідальнага й дысацыяльнага разладжаньня асобы"

На старонках "Нашай Свабоды" Зьміцер Шчыгельскі заяўляе: учынкі Аляксандра Лукашэнкі даюць падставы меркаваць пра тое, што ў беларускага лідара цяжкое псыхічнае захворваньне, і Лукашэнка можа ўяўляць небясьпеку для астатніх. Прычым, думка пра небясьпеку, якую тоіць беларускі лідар ня толькі для свайго атачэньня й грамадзян Беларусі, але й для рэгіёну ў цэлым, прасякае ўсе восем палосаў публікацыі: "Характэрныя асаблівасьці грамадзяніна Лукашэнкі ў выпадку ягонага далейшага знаходжаньня ва ўладзе, з улікам клінічнай дынамікі, якая назіралася цягам апошніх 6 гадоў, з высокай ступеняю верагоднасьці, здольныя прывесьці да масавага тэрору і ўсталяваньня ў краіне абсалютна нічым не абмежаванай ўлады адной асобы".- сьцьвярджае псыхіятар, які прызнаецца, што вывучаў дзеяньні Лукашэнкі паводле мэтодыкі завочнага назіраньня.

Зьміцер Шчыгельскі выходзіць паза межы мэдычнай навукі й робіць спасылкі на артыкулы Канстытуцыі, якія дазваляюць адхіліць Лукашэнку ад улады як псыхічна хворага чалавека. Артыкул 88 – нагадвае дасьледвальнік – прадугледжвае адхіленьне прэзыдэнта ад улады ў выпадку ўстойлівай немагчымасьці выкананьня ім сваіх абавязкаў.

Лекар падрабязна апісвае мэханізм магчымага вочнага выстаўленьня дыягназу: Лукашэнка зьяўляецца Вярхоўным Галоўнакамандуючым, а таму на яго распаўсюджваецца дзеяньне загаду міністра абароны, дзе пералічваюцца патрабаваньні да здароўя вайскоўца.

Рэакцыі на публікацыю самога Аляксандра Лукашэнка пакуль няма. У прэсавай службе Адміністрацыі Рацыі адмовіліся паведаміць, ці рыхтуецца якая-кольвек публічная заява, альбо іншае формы рэагаваньне. Ня выключана, што беларускі лідар паспрабуе праігнараваць зьяўленьне дыягназу, бо ў інакшым выпадку прыдзецца даказваць адваротнае... Рацыі ўдалося высьветліць, што псыхіятар Зьміцер Шчыгельскі сапраўды існуе, і сапраўды ён працаваў у Магілеўскім псыхіятрычным шпіталі. У красавіку летась ён прадаў сваю кватэру, і цяперашняе ягонае месцазнаходжаньне невядома.

Галоўны рэдактар "Нашай Свабоды" Павал Жук даводзіць: заключэньне лекара яму прынесьлі на касэце ў капэрце. Рэдактар выданьня заявіў: калі будуць зробленыя спробы зачыніць газэту, ён нават згодны судзіцца. Аднак ў судзе ён будзе настойваць на стварэньні камісіі псыхіятраў з мэтай пацьверджаньня, альбо зьняпраўджваньня надрукаванага ў газэце дыягназу.

**П.Ж.:** - Я лічу, што інфармацыя дакладная на 100%, бо ў гэтым матэрыяле выкарыстоўваецца толькі тое, што ўжо было вядома грамадзкасьці, - гэта спасылкі на літаратурныя крыніцы, спасылкі на стэнаграмы, спасылкі на відэа матэрыялы й г.д. Гэта ўсё поўнасьцю зроблена на падставе фактычных матэрыялаў, якія тут і згадваюцца, якімі высновы мэдыка аргумэнтуюцца.

Павал Жук заяўляе, што ён гатовы да судовых разьбіральніцтваў і рэпрэсіяў з боку афіцыйных уладаў.

**П.Ж.:** - У нас стасункі заўсёды былі складаныя з уладамі. Мы павінны ведаць усе бакі жыцьця людзей, якія працуюць на версе палітычнай улады. Мы павінны пра іх ведаць усё, каб зрабіць правільны выбар. Таму што восеньню, як вядома, будуць выбары, - і народ павінен ведаць сваіх герояў. Могуць быць рэпрэсіі, газэту могуць закрыць на падставе нейкага рашэньня. Гэтае рашэньне мы будзем абскарджваць у судзе. А калі нас будуць вымушацьісьці ў суд абараняць свае правы, мы запатрабуем, каб была створана экспэртная камісія псыхіятраў і праверылі тую асобу. І зрабілі ўжо сапраўдны, не завочны, аналіз псыхічнага стану цяперашняга кіраўніка.

Гатовасьць Павала Жука да абароны свае пазыцыі дачынна апублікаваньня артыкулу-дыягназу, гэтакім чынам, засьведчаная. Ці гатовыя да гэтага іншыя рэдакцыі нешматлікіх незалежных беларускіх газэтаў, -- пакуль можна толькі здагадвацца.

# Расею ў «васьмёрку» не пусцяць?

Намеснік міністра фінансаў Нямеччыны Кая Кох-Вэйзэр паведаміў у інтэрв'ю газеце *Financial Times Deutschland*, што Нямеччына гатовая заблякаваць увахожанне Расеі ў склад «вялікай васьмёркі», калі тая ня будзе сплачваць сваіх даўгоў. «Паводзіны Расеі не адпавядаюць яе прэтэнзіям на сяброўства ў "васьмёрцы", паведаміў Кая Кох-Вэйзэр.

Дагэтуль Нямеччына актыўна лабіравала ўвахожанне Расеі ў склад групы сямі прамыслова развітых краінаў-лідэраў – «вялікай сямёркі». Аднак цяпер яе больш цікавіць вяртанне грошай, што Расея завінавацілася Нямеччыне за апошнія гады.

Расея цяпер вінаватая дзяржавамкрэдыторам, што ўваходзяць у гэтак званы «Парыжскі клуб», суму ў памеры каля 117 мільярдаў нямецкіх марак (каля 56 мільярдаў долараў), з іх 57 мільярдаў марак (больш за 27 мільярдаў долараў) – непасрэдна Нямеччыне.

К.Кох-Вэйзэр рэзка адхіліў усе прапановы Крамля актывізаваць правядзенне рэформаў – у выпадку, калі Расеі «сьпішуць» даўгі. «Захад не набывае рэформы. Гэта вельмі небясьпечная гульня».

# Аляксандр Пушкін едзе ў Кліўленд

Вядомы беларускі мастак Алесь Пушкін едзе ў ЗША – гэта першая яго замежная паездка за апошнія паўтара года. А.Пушкін перамог у конкурсе на афармленне царквы Жыровіцкай Маці Божай у Кліўлендзе (штат Агаё).

Перад самым новым годам Алесь Пушкін быў амніставаны. Мастак быў асуджаны на два гады ўмоўна за свой перформанс у дзень скančэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А. Лукашэнкі 21 ліпеня 1999 года каля рэзыдэнцыі, дзе ён укінуў у гной партрэт былога прэзідэнта і ўткнуў у яго вілы.

# Прайшоў надзвычайны зьезд

**Нядаўна ў Гродне прайшоў 5-ты надзвычайны зьезд рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Саюз палякаў на Беларусі", на якім быў выбраны новы старшыня арганізацыі.**

Былы старшыня СПБ Тадэуш Гавін падаў у адстаўку па стану здароўя. На яго пасаду прэтэндавалі тры чалавекі: Тадэуш Малевіч, Тадэуш Кручкоўскі і Аляксандр Прушынскі. У выніку тайнага галасаваньня старшынёй СПБ быў выбраны Тадэуш Кручкоўскі, выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту.

Па словах старшыні раённага аддзелу "Саюза палякаў на Беларусі" Леанарды Рэйкоўскай, зьезд атрымаўся вельмі бурным, але дэмакратычным. Кожны з дэлегатаў (Слонімшчыну прадстаўлялі тры дэлегаты) атрымаў магчымасць выказацца пра набалелае, пра сваё бачаньне перспектыў развіцця арганізацыі. На зьездзе было вырашана рабіць стаўку на моладзь, быў абраны малады старшыня арганізацыі. Афіцыйна было заяўлена, што СПБ — апалітычная арганізацыя, таму найбольш увагі будзе надавацца адукацыі, культуры, захаваньню традыцыяў, працы з рэгіёнамі.

Леанарда Рэйкоўская была перавыбрана ў склад Вярхоўнай Рады "Саюза палякаў на Беларусі", у якую ўвайшло 35 чалавек.

**Сяргей ЁРШ** (Газэта Слонімская)




IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

## Др. Віталі Міленцэвіч

8-6-1914 — 6-12-2000

Нарадзіўся др. Віталі Міленцэвіч у г. Гродна. Мэдыцыну закончыў яшчэ на Бацькаўшчыне. У Нямеччыне прадаўжаў студыяваць хірургію. У Аўстралію прыбыў у 1949 годзе і пасяліўся ў Адэлайдзе.

Дакторскую практыку праходзіў у дзяржаўным шпіталі, а пасьля працаваў у прыватнай клініцы.

У 1950 годзе быў на першым афіцыйным беларускім сходзе у аўстралійскім вайсковым лягеры Касвік. Гэтая група беларусаў пастанавіла шукаць сваіх суродзічаў у Паўдзённай Аўстраліі, каб арганізаваць беларускае грамадзкае жыцьцё ў новай краіне.

Паховіны адбыліся 19-12-2000 з капліцы "Бэры & Сон Фюнэралс Дырэкторс" на "Контынэнталь Парк Цэмэтары", на англіканскім участку.

Нябожчык быў моцным беларускім патрыётам ды добрым ахвярадаўцам на беларускую прэсу, асабліва на "Беларускі Дайджэст".

Няхай Яму будзе пухам Аўстралійская зямелька.

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

******************************

**Нядаўна памерлі...**

**Мы даведаліся, што ў Мілтаўн, ЗША. памёр сп. Антон ДАНІЛОВІЧ, (Янка Золак), які паходзіў са Случчыны...**

**і таксама сп. Юрка КАЛЯДА ў Кліўлендзе, ЗША., які паходзіў з Наваградка.**

**Вечная ім памяць!**

========================

Заміж кветак на сьвежую магілу Расьціслава Завістовіча зложыла ахвяру на "Беларускі Дайджэст" Спд. **Ніна Кіт** — \$50.оо, ды яшчэ \$50.00 як гадавую ахвяру на газэту, — разам \$100.оо. Моцна дзякуем!

****************************************

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

Паважаны Спадар М. Прускі!

Віншую сардэчна Вас з Новым стагодзьдзем, Новым тысячагодзьдзем, Новым 2001 годам і жадаю моцнага здароўя, добрага настрою, дабрабыту ды посьпехаў і плёну на ніве Беларускага Адраджэньня.

З вялікай удзячнасьцю чытаю і перадаю сябрам Вашу газэту. Асабліва з цікавасьцю разглядаю фотаздымкі, якія Вы публікуеце на апошняй старонцы, пазнаю некаторых знаёмых глыбачан (Я. Скурата, Гінько, Жвірблянку).

Зьбіраньне і публікацыя фотаздымкаў з прыватных архіваў чытачоў Вашага часапісу — гэта вялікая і вельмі патрэбная справа... Гэта наша гісторыя беларускага руху XX стагодзьдзя, пошук іх трэба, як мага, доўжыць і ў XXI стагодзьдзі.

Дасылаю пакуль-што і я копію фотаздымку навучэнцаў апошняй клясы Віленскай Беларускай гімназіі за 1925 год. У ліку навучэнцаў і мой дваюрадны брат Янка Дрозд, які ў 1926 годзе з даверам і надзеяй перайшоў мяжу ў БССР. Гэты такі шчымлівы фотаздымак застаўся ў мяне, як спадчына дарагога Янкі, які пасьля заканчэньня Бел. Дзяр. Уні-ту быў арыштаваны ў г. Бярэзіне ў 1933 г. "па справе т. зв. Беларускага нацыянальнага цэнтру" ў ліку 96 асоб і 15. 05. 1934 г. расстраляны сталінскімі катамі ў Менску, магчыма ў Курапатах.

Трагічна абарвалася жыцьцё і Юльяна Саковіча, якога падчас 2-ой Сусьветнай вайны забілі Акаўцы. Загінуў у сталінскіх лягерах Мікола Мятла. Драматычны лёс напаткаў і Хведара Ільляшэвіча ў замежжы.

Сьпіс навучэнцаў памагла ўдакладніць Зоя Грыц, былая вучаніца гімназіі. Драматычным быў жыцьцёвы лёс і З. Грыц, якая разам са сваёй сястрой, былай вучаніцай Радашковіцкай бел. гімназіі ў 1933 годзе, стала ахвяраю сталінскіх рэпрэсыяў... Яны без суду былі высланыя на 8 гадоў у Салавецкія лягеры.

Дасылаю таксама ксэраадбітку заявы Я. Драздовіча, з рэзалюцыяй майго нябошчыка бацькі Алеся Сабалеўскага. 80 год назад быў падпісан гэты дакумэнт, які фактычна выратаваў жыцьцё дзядзьку Язэпу, з якім мне прыходзілася неадназразова сустракацца падчас вайны ў хаце майго дзядзькі Лукаша Дразда ў Глыбокім.

З дазволу Вячаслава Рагойшы дасылаю Вам чатыры нумары газэты "Ракаўскі шлях"... а таксама для знаёмства выразку з газэты "Известия"...

Выбачайце, што так многа напісаў.

З вялікай павагай А. Сабалеўскі, (Масква).

***********************************************

## IN MEMORIAM

Успаміны з жыцьця і дзейнасьці сьв. памяці Тані Плескач.

Беларуская грамада Дэтройту і ваколіц, а таксама штату Мічыган страціла сваю сяброўку і даўгагадовую працаўніцу на беларускім нацыянальна-грамадзкім палетку. Цяжкая хвароба на працягу 15 гадоў адарвала яе ад працы на ніве беларускай справы. У сваёй працы яна ніколі не афішавалася, сумленна старалася выконваць абавязкі, і амаль усё сваё жыцьцё брала на сябе адказнасьць зьвязаную з грамадзкай працай. Гэта вымагала шмат энэргіі, як сяброўкі Ўправы Аддзелу БАЗА ў Дэтройце ды іншых грамадзкіх функцыяў. У свой час Аддзел БАЗА належаў да найбольш актыўных беларускіх арганізацыяў. Няраз яна ўкладала праграму адзначэньня 25 Сакавіка, — высылала запросіны да сэнатараў, кангрэсманаў, мэра горада і рэпрэзэнтантаў іншых этнічных згуртаваньняў. Трэба адзначыць, што першая праклямацыя з нагоды ўгодкаў 25 Сакавіка была выдана Аддзелу БАЗА губэрнатарам Мічыгану, Мэнэнам Вільямсам, а прамовы некаторых сэнатараў і кангрэсмэнаў былі запісаны ў афіцыйным кангрэсавым Весьніку ЗША. Не малую ролю адыграла ў гэтай справе сьв. пам. Таня.

Няраз перад Калядамі і сустрэчаю Новага году яна з наймалодшымі дочкамі прымала ўдзел у музыкальных праграмах дэтройцкіх пачатковых школаў на запросіны іх дырэкцыяў. У перапоўненых школьных аўдыторыях дзяўчаты сьпявалі беларускія песьні, а Таня тлумачыла зьмест гэтых песень, азнаямляла прысутных з Беларусьсю. Таксама на Каляды Таня разам з дзецьмі іншых сяброў Аддзелу БАЗА падрыхтоўвала сьвяточны паказ, звычайна ў вялікай залі Інтэрнэйшанал Інстытуту. Штогод урачыста і шматлюдна адзначаўся Акт 25 Сакавіка і мэр гораду заўсёды выдаваў спэцыяльную праклямацыю з гэтай нагоды, а наш бел-чырвона-белы сьцяг разам з амэрыканскім у гэты дзень лунаў над будынкам гарадзкой управы.

Памятаецца арганізаваны ЗША і Канадаю так званы "Freedom Festival" — (горад Дэтройт — ЗША і Віндзор, Канада, — два суседнія гарады, якія разьдзяляе толькі рэчка). У гэтым фэстывалі нацыянальныя групы бралі актыўны ўдзел. Быў вельмі прыгожы парад на чале якога йшла беларуская група ў нацыянальнай вапратцы са сваім бел-чырвона-белым сьцягам. Гэтай падзеі пры глядаліся сотні тысяч гледачоў. iiii

З гэтай нагоды ў спэцыяльным павілёне ў прысутнасьці губэрнатара штату, мэраў Дэтройту і Віндзару адбыўся выбар каралевы этнічных груповак, — каралеваю была выбрана Марыя Плескач, калі яна была яшчэ студэнткай мэдыцыны на ўнівэрсытэце Мічыган у Анн Арбор. Без сумліву было гэта вялікаю прапагандаю для беларускіх аспірацыяў на міжнародным форуме.

Сьв. пам. Таня належала да БАЗА ад пачатку яе існаваньня ў ЗША і арганізацыі парафіі Сьвятога Духа ў Іст Дэтройт. З пачатку парафія ня мела ўласнага царкоўнага будынку і багаслужбы адбываліся доўгі час у памешканьні Спадарства Плескачоў, а пасьля ў доме Ул. Бакуновіча аж да часу, калі з ахвяраў сяброў-прыхаджанаў і Аддзелу БАЗА быў куплены царкоўны будынак.

Шмат падрыхтоўчай працы было зроблена Аддзелам БАЗА ў сувязі са спатканьнем губэрнатара Штату Уільяма Міліканa з нагоды канфэрэнцыі губэрнатараў ЗША ў Дэтройце.

Гэтае спатканьне беларусаў з губэрнатарам Мічыгану ды іншых штатаў у надзвычай атракцыйнай абстаноўцы з удзелам прэсы і ТУ дало надзвычай добрую нагоду пазнаёміць вялікую колькасьць амэрыканскае грамадзкасьці з беларускімі праблемамі і барацьбой БНР за незалежнасьць і свабоду беларускага народу. Гэтая сустрэча з губэрнатарамі была яскравым довадам, што беларусы Мічыгану зьяўляюцца адною з найбольш актыўных нацыянальных згуртаваньняў у Мічыган і ЗША.

Падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі беларусы Дэтройту мелі нагоду прывітаць прэзыдэнта Рэгэна і падтрымаць ягоную і рэспубліканскую плятформу...

На асаблівую ўвагу заслугоўвае пастаноўка п'есы Я. Купалы "Паўлінка", — два разы ў Дэтройце, а таксама ў Чыкага Кліўлендзе ды Ў Торонта і Лёндане (Онтарыё) у Канадзе. Пастаноўка мела добрую крытычную ацэнку беларускае і ўкраінскае прэсы і кампазытара Міколы Куліковіча-Шчаглова. Галоўную ролю Паўлінкі



вельмі добра адыграла Таня Плескач...

Ад імя Беларусаў Дэтройту і з пэрэспэктывы многіх гадоў усе бышыя сябры (а засталося іх мала!) выражаюць сваё глыбокае спачуваньне адыйшоўшай ад нас Тані і ў малітвах просяць Усявышняга, каб Ён прыняў яе да Сябе на вечны супачынак на чужой, але гасьцціннай зямлі Вашынгтона.

Таня выконвала вельмі сумленна і станоўча свой патрыятычны абавязак у справе пашырэньня беларускае ідэі на амэрыканскім кантынэнце.

**Вечная ёй памяць!** В. П. Дэтройт, ЗША.

---

Паважаны сп. Прускі!

Вітаю і віншую з Новым Годам. Дзякую за "Беларускі Дайджэст". Надта цікавыя артыкулы ў газэце.

Даводжу да Вашага ведама, што я ўжо закончыў макет цэлай Біблії ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі і адаслаў макет у дзьвюх копіях (camera-ready) спадару Сёмуху ў Менску і ягонай дачцэ Алесі ў Нью-Ёрку. Бацька даручыў Алесі паклапаціцца аб выданьні беларускай Біблії (напэўна ў Беларусі) і сабраць грошы на першае выданьне. Як я разумею, яна цяпер гэтым і займаецца. Макет быў зроблены, настольна-выдавецкай сыстэмай Macintosh, праграмай QuarkXPress 3.32. Адзін знаёмы ўкраінец, які мае сваю друкарскую фірму тут у Таронта, пераставіў для мяне тэкст Біблії з Макінтошскай на Ай-Бі-Эмаўскую сыстэму і цяпер маю тэкст паводле электроннага рэдактара Microsoft Word 6.0 for Windows.

Што тычыцца выданьня беларускай Біблії, гэта цяпер у руках Алесі і яе бацькі. Я вельмі хацеў-бы пабачыць выхад Біблії яшчэ ў гэтым годзе, але час пакажа...

Зычу Божых добраславеньняў, посьпехаў у Вашых намерах і шчасьця ў 2001 годзе!

З павагай, Юрка Рапецкі. Торонта, Канада.

**Паважаныя чытачы! Ці Вы ўжо пераслалі <u>Ахвяру</u> на нашу газэту?! Нам патрэбная Вашая дапамога...**

**Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!!!**